Пролетары усіх краеу, злучайцеся!

# МАЛАДНЯК

## КАЛІНІНШЧЫНЫ

№ 2.

м. Клімавічы.

# ЗЬМЕСТ

Пролетары усіх краеў, злучайцеся!

# МАЛАДНЯК

## КАЛІНІНШЧЫНЫ

Орган Калінінскага Акр Кам. ЛКСМБ і акруговай філіі Усебеларускага Аб'яднаньня поэтау і пісьменьнікау „Маладняк".



№ 2.

Выданьне Акр. Кам. ЛКСМБ і Філіі «Маладняка»
г. КЛІМАВІЧЫ — 1925 г.

# Калінінская філія „МАЛАДНЯК“.

11 красавіка гэтага года на агульна—гарадзкім сходзе камсамольцау быу заслуханы даклад члена ЦБ. Усебеларускага аб'яднаньня поэтау і пісьменьнікау „Маладняк“ А. Бабарэкі аб сучаснай беларускай літаратуры. Дакладчык азнаеміу сход з працаю і творчасьцю «Маладняка» і высьвятліу, якія задачы стаяць перад рабоча-сялянскай моладзьцзю па стварэньню беларускай пролетарскай літаратуры і па разьвіцьцю беларускай культуры наогул.

Пасьля дакладу сход аднагалосна пастанавіу арганізаваць у г. Клімавічах Калінінскую філію „Маладняка“, у якую зараз-жа вылучыць поэтау, пісьменьнікау і іншых мастакоу, а таксама дапамагаць філіі выявіць маладыя мастацкія сілы сярод рабочай, сялянскай і вучнеускай моладзі Калінінскай Акругі.

У філію вылучана 7 чалавек: Палонскі, Пякарчык, Карачун, Аніхоускі, Музыка сябрамі і кандыдатамі Мітліна і Смарчкоу.

Часовае кірауніцтва філіяй даручана т. Палонскаму.

Т. Бабарэка ад ЦБ „Маладняка“ перадау арганізаванай філіі невялічкую Маладнякоускую бібліатэку.

# Камсамол Калініншчыны у справе Культурнага адраджэньня Беларусі.

Цемны, глухі куток — быушыя Калінінскі, Чэрыкаускі, Мсьціслаускі паветы, пасьля далучэньня іх да Беларусі, пачалі расквітаць, як пралескі ў вясновую пару.

У Калінінскую акругу пачалі прыяздждаць, тыя таварышы, якія зьяуляючыся прадстаунікамі Камуністычнай партыі, ідуць па шляху эканамічна-культурнага адраджэньня Беларусі.

Другі раз ужо ў Калінінскую акругу зьявіліся прадстаўнікі, «дзецішча» камсамолу, „Маладнякоуцы“.

Маладнякоўцы, пад кіраўніцтвам камсамолу, паставілі сваей мэтай, абудзіць самыя глухія куточкі Беларусі; пусьціць у іх прамень сьвету новай пролетарскай творчасьці.

Камсамол Калініншчыны ўжо даўно йдзе па шляху эканамічна-культурнага адраджэньня Беларусі.

Тыя гурткі беларусазнауства якія маюцца пры кожнай ячэйцы, кажуць, што Калінінскі камсамол робіць вялікія задачы па выкананьню дырэктыу Камуністычнай Партыі па нацыянальнаму пытаньню.

Заданьне кожнай камсамольскай ячэйкі разгарнуць працу гурткоу беларусазнауства, аб'яднаць у іх усю лепшую моладзь вёсак і паставіць сваей задачай досьледы над краем, вывучваньне эканамічнага і культурнага быту селяніна, а таксама вывучваньне гісторыі Камуністычнай Партыі і Беларусі.

Беларуская вёска, якая вякамі прыгняталася, як у палітычным, так і у нацыянальным напрамку, таіць, як нетры лясныя, ў сялянскай гушчы шмат будучых талентных маладых працаунікоў культурнай і грамадзянскай галіны.

Камуністычная партыя дала магчымасьць абудзіцца сьпячым талентным сілам і заклікае іх да пралетарскай творчасьці. Вынікі гэтага клічу ўжо відавочны.

---

**Увага:** У друкарні няма яшчэ беларускага шрыфту, дзеля чаго не мажліва ужыць патрэбныя «у» і «е».

У Менску, пад кіраўніцтвам камсамолу, расьце й узмацняецца так званы «Маладняк».

«Маладняк» пачаў пашыраць сваю працу па другім акругам далучанай Беларусі.

Прыйшоў таксама й на тэрыторыю нашае Калінінчшчыны.

Яшчэ ў 1924 годзе Акруговым Камітэтам Камсамолу супольна з Усебеларускім аб'яднаньнем паэтаў і пісьменьнікаў «Маладняк» быў выпушчан журнал «Маладняк Калінінчшчыны» з выданьнем гэтага нумару, камсамол адразу распазнаў, як ён павінен весьці сваю працу, ў справе культурнага будаўніцтва ў нашай акрузе.

Цяпер пасьля некаторых перарываў выходзіць у сьвет другі нумар «Маладняк Калінінчшчыны».

У „Маладняку Калінінчшчыны" № 2 чытач можа знайсьці некаторыя мастацкія творы й вершы новых паэтаў — самародкаў Калінінчшчыны.

Гэты нумар яскравіць сілы Камсамолу Калінінчшчыны.

«Маладняк Калінінчшчыны» № 2 закладывае цьверды грунт дзеля далейшай эканамічна-культурнай працы.

Перад камсамолам Калінінчшчыны паўстала практычна заданьне аб утварэньні філіі «Маладняка» у Калінінскай акрузе.

Гэтая філія павінна будзе аб'яднаць у сабе усе лепшыя нараджаючыяся сілы, знайсьці тыя таленты, набыць нават і дзіцячыя, якія сьпяць яшчэ ў нашых вёсках, філія «Маладняка» пад кіраўніцтвам камсамолу будзе ісьці па шляху новае пралетарскай творчасьці.

Лепшае знаемства з вёскай дасьць магчымасьць камсамолу, пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі, правільней ісьці па шляху культурна-эканамічнага адраджэньня акругі.

Грунт дзеля далейшай працы, лепшай працы, есьць. Акруговы Камітэт Л. К. С. М. Б. заклікае ўсе талентныя сілы аб'яднацца ў філію «Маладняка» і пад камсамольскім кіраўніцтвам распачаць новую працу на тэрыторыі Калінінскай акругі.

*Акруговы Камітэт ЛКСМБ.*

А. Бабарэка.

# Літаратура, як зброя клясавага змаганьня і шлях да яе ауладаньня.

У змаганьні рабоча-сялянскае клясы за сацыялізм і камунізм вялікае значэньне мае друкаванае слова. Асабліва гэта трэба сказаць пра слова мастацкае, пра мастацкую, прыгожую літаратуру, як і пра іншыя галіны мастацтва.

І сапрауды, што такое літаратура? Гэта зброя клясавага змаганьня. Яна служыць інтарэсам тэй клясы, у рукай якой знаходзяцца сродкі мастацкай творчасьці. Іначай і быць ня можа.

Пісьменьнік ці паэта і наогул усякі іншы мастак, належачы да тэй ці іншай клясы, жыве інтарэсамі гэтай клясы, жыве супольнымі з его думкамі і ідэаламі. І вось такі пісьменьнік піша апавяданьні, аповесьці, вершы, адным словам творыць мастацкую літаратуру. Есьць вядома, матар'ял для свае творчасьці ён чэрпае з жыцьця. Здавалася-б, калі так, то ува усякім мастацкім творы мы павінны былі-б бачыць сапраўднае жыцьцё, жыцьцё як яно ёсьць з яго клясавымі супярэчнасьцямі, з яго клясаваю барацьбою і г. д. Але уся у тым і загвоздка, што так ня бывае у творах пісьменьніка буржуазнай або памешчыцкай клясы.

Ен піша з жыцьця, нават можа браць матар'ял з жыцьця рабочых і сялян. Але уся справа у тым, як ён апісвае гэта жыцьце, як ён яго высьвятляе, якімі прычынамі тлумачыць тыя ці іншыя зьявы жыцьця?

Вядома усім, што адно і тое-ж здарэньне у жыцьці можна тлумачыць па рознаму. Вось так і пісьменьнік буржуазнай клясы бярэ зьявы жыцьця і праз мастацкае слова, як у люстэрцы, паказвае другім толькі з таго боку, з якога гэта карысна яго клясе. Скажам так, піша ён пра селяніна або пра рабочага. Буржуазны пісьменьнік у такім выпадку ніколі не напіша так, каб было відаць, што усё ліха, якое напаткае селяніна ці рабочага, залежыць

ад клясавай нароўнасьці, ад эксплёатацыі яго памешчыкамі і буржуазіяй. Наадварот, ён будзе выхваляць эксплёататараў, будзе пісаць так, што паны дбаюць аб народзе, аб ім клапоцяцца, але гэта мужыкі да рабочыя такія ўжо удаліся, што ім дрэнна жывецца. Або будзе тлумачыць, што ўсе ад бога, усе ў яго волі, і ўсе павінна так быць, як і ёсьць. І зразумелая рэч, чаму ён так піша. Інакшай пісаць—гэта ня выгадна, ня ў інтарэсах тэй клясы, да якой належыць сам пісьменьнік. І так бывае заўсёды з буржуазнымі пісьменьнікамі, ня гледзячы на тое, што часта яны любяць казаць пра чыстае мастацтва, пра тое, што яны не належаць у сваёй творчасьці ні да якай клясы і што твораць толькі мастацтва для мастацтва. Гэта толькі іх вопратка, а скінь з такога пісьменьніка адзежку, то й зубкі буржуазныя відаць.

І яшчэ пакойны Плеханаў вучыў, як скідаць такую вопратку з мастацкага твору, калі пісаў, што заўсёды трэба ідэі мастацкага твору перакладаць з мовы мастацтва на мову сацыялёгіі, гэта значыць, на мову грамадзкіх адносін з іх эканамічнымі прычынамі і з іх клясавымі супярэчнасьцямі.

Такім чынам, ясна, што буржуазная літаратура, а таксама іншыя галіны буржуазнай культуры служаць інтарэсам буржуазіі.

Чытаючы гэткую літаратуру, у чытача, які не адносіцца крытычна да мастацкага твору, або зусім абпіняецца воля і прыдушваюцца клясавыя пачуцьці, або накіроўваюцца так, як гэта выгадна для буржуазіі. Вось чаму і ня дзіва, што буржуазія вельмі шануе сваіх пісьменьнікаў і плаціць ім шаленыя грошы за іх творы, бо добра сазнае якою магутнай зброяй зьяўляецца мастацкая літаратура ў клясавым змаганьні, у змаганьні за панаваньне над пролетарыятам і сялянствам.

А калі ўсе гэта так, то паўстае пытаньне, а ці ня можа літаратура служыць інтарэсам пролетарыята? Гісторыя, а асабліва Кастрычнікавая рэвалюцыя паказала, што гэта ня толькі магчыма, але й неабходна пролетарыяту і сялянству завяваць літаратуру, апанаваць самім усімі мастацкімі сродкамі дзеля канчатковай перамогі рэвалюцыі і дзеля пабудаваньня соцыялізму і камунізму.

Вядома, напрыклад, якую вялікую ролю ў часы грамадзянскай вайны адыграла мастацкае слова пролетарскіх пісьменьнікаў у расійскай літаратуры, арганізоўваючы пачуцьці, мысьлі і волю рабочых і сялян на барацьбу з капіталам. Тое самае наглядаецца і на нашых беларускіх літаратурных загонах. Прыкладам можа служыць творчасьць М. Чарота, Ц. Гартнага і інш.

Словам, Кастрычнікавая рэвалюцыя, перадаючы ў рукі пролетарыята і сялянства ўсе сродкі матар'яльнай вытворчасьці дзеля

будаваньня соцыялістычнага ладу жыцьця, не абмінула і літаратуры. Яна паставіла пролетарыят і сялянства перад неабходнасьцю зрабіць і у гэтай галіне пераворот, бо рэвалюцыя не канчаецца пераваротам у палітычных і соцыяльна-эканамічных адносінах між людзьмі. Каб дасягнуць канчатковай перамогі, яна павінна зрабіць пераворот у мысьлях і пачуцьцях, пераварот у духоуных адносінах між людзьмі, у іх сьвядомасьці. А, як мы ужо бачылі, адным з сродкау для такога перавароту зьяуляецца мастацкае слова.

Адгэтуль ясна, што Кастрычнікавая рэвалюцыя ставіць перад пролетарыятам і сялянствам задачу заваяваньня мастацькай літаратуры. Яна паставіла рабочых і сялян перад неабходнасьцю уладаць сродкамі мастацкай творчасьці у інтарэсах рэвалюцыі, у інтарэсах барацьбы за соцыялізм і камунізм. Паустала патрэба у такой мастацкай літаратуры, якая-б, як у люстэрцы адбівала жыцьце у праудзівым асьвятленьні, якая-б паказвала сапрауднын адносіны між клясамі і выкрывала сапрауднын прычыны гэтых адносін.

Ясна, што такую літаратуру можа стварыць толькі сама рабочая сялянская кляса. Ясна і другое, што яна будзе тварыць яе на тэй мове, якую умее. Іначай і быць ня можа, бо у праціуным выпадку літаратура не дасягне свае мэты і ня выпауніць тэй задачы, якую паставіла перад ею рэвалюцыя.

І вось будучы у гэтым асьвядомленай, рабоча-селянская кляса вылучае з сябе свае новыя маладыя мастацкія сілы.

На хвалях кастрычнікавай рэвалюцыі з працоуных гушчау узьнімаюцца „самародкі“ паэты, пісьменьнікі, мастакі Яны пішуць вершы, апавяданьні і іншыя мастацкія творы дзеля таго, каб паказаць жыцьце у праудзівым пролетарскім асьвятленьні, каб тым самым арганізоуваць волю, думкі і пачуцьці працоуных мас на барацьбу за соцыялізм і камунізм.

За рэвалюцыяй соцыяльнай узьнімаецца рэвалюцыя у сьвядомасьці. Як першую так і другую—правільней працяг першай—творыць пролетарыят.

І вось на літаратурных загонах маладыя мастацкія сілы, што вылучаны з працоунай гушчы, стыкаюцца з сіламі мастацкімі буржуазнай клясы, стыкаюцца з літаратурой буржуазнай. Гэтыя апошнія, дзякуючы свайму ранейшаму становішчу, здолелі уладаць усімі мастацкімі сродкамі і формамі творчасьці. З-пад іх пяра выходзяць моцныя сваею мастацкай сілай творы, ці то вершы, ці апавяданьні, ці інш. творы. Іх твор можа моцна „ударыць у сэрцы людзей“.

Інакшае зусім становішча пісьменьніка, які вышау з працоунай гушчы. Яго ранейшае становішча не давала магчымасьці вывучыцца тонкім і дасканальным способам выказваць думкі і цераз высока мастацкае слова паказваць жыцьце у праудзівым асьвятленьні, у асьвятленьні клясавай сьвядомасьці. Ен, калі з рабочых, то вывучыуся толькі добра спрауляцца каля станка, а з сялян, то умее добра арудаваць сахою.

Вось у гэты як раз момант—момант стычкі пролетарскіх мастацкіх сіл з сіламі буржуазнай літаратуры і вынікае неабходнасьць для першых апанаваць усімі мастацкімі дасягненьнямі і пераапрацаваць іх у інтарэсах рэвалюцыі. Патрэбна стварыць моцны грунт дзеля вышэйшага стопня у разьвіцьці літаратуры.

І тут выплывае пытаньне, якім-жа шляхам ісьці маладым мастацкім сілам, што выйшлі і выходзяць з працоуных гушчау, каб апанаваць мастацкай літаратурай, як зброяй клясавага змаганьня? Адно ясна, гэты шлях ня можа быць шляхам падобным таму, па якім ішлі і ідуць буржуазныя пісьменьнікі, бо зусім у іншых умовах узрастае пісьменьнік пролетарскі або сялянскі. Адзіны і правільны шлях да уладаньня сродкамі мастацкай творчасьці для рабочага і селяніна—гэта шлях колектыунай арганізаванасьці, шлях колектыунай працы і таварыскай узаемадапамогі.

І на гэты шлях становяцца усе пісьменьнікі, што выйшлі з працоуных гушчау, незалежна ад таго на якой мове яны творацъ, на якой мове пішуць вершы, апавяданьні, аповесьці і г. д. Так, мы бачым, як арганізаваліся пролетарскія пісьменьнікі у РСФСР у Усерасійскую асацыяцыю пролетпісьменьнікау (ВАПП) і іншыя аб'яднаньні. На Украіне залажыліся суполкі пісьменьнікау «Гарт» і «Плуг».

Такім-жа шляхам пайшлі і беларускія маладыя паэты і пісьменьнікі з рабочых і сялян.

28 лістапада 1923 года на беларускіх літаратурных загонах залажауся «Маладняк». Спачатку гэта невялікая група пісьменьнікау, якія згуртаваліся дзеля таго, каб апанаваць беларускай мастацкай літаратурай шляхам колектыунай працы і аб'яднаць усіх маладых беларускіх паэтау і пісьменьнікау, якія выходзяць з працоунай гушчы. Правільнасьць выбранага шляху хутка сьцьвярждаецца. Праз кароткі час група «Маладняк» разрастаецца ува усебеларускае аб'яднаньне паэтау і пісьменьнікау «Маладняк». Рабочая і сялянская моладзь, сазнаючы вялікае значэньне мастацкай літаратуры на сваей роднай мове у клясавым змаганьні і у сацыялістычным будауніцтве, правільна ацэньвае шлях выбраны «Маладняком»; папауняе яго рады сваімі маладымі абуджаючыміся мастацкімі сіламі.

К часу пленуму „Маладняка“, які адбыуся у Менску 21-23 сакавіка гэтага года, „Маладняк“ разросься ужо філіямі (аддзеламі) амаль па усіх акругах Беларусі, а таксама сягануу і за яе межы. Так ужо працуюць над ауладаньнем мастацкімі сродкамі на беларускай мове і над пашырэньнем беларускай мастацкай літаратуры у працоуныя гушчы філіі «Маладняка» апроч Менску у Магілеве, Віцебску, Полацку, Бабруйску, Барысаве, Горках і у Маскве. Апроч таго вакол „Маладняка“ гуртуюцца ня толькі паэты і пісьменьнікі, а і усе маладыя сілы іншых галін мастацтва. Так ужо залажыліся сэкцыі вобраза-творчага мастацтва, сэкцыя музычная і тэатральная.

У сучасны момант «Маладняк» налічвае ужо блізка 200 сталых сяброу, апроч кандыдатау і студыйцау і стаіць пад знакам далейшага узросту.

Да пленуму гэты рост быу стыхійны. Цяпер-жа пленум падагуліушы усю працу за мінулы час, вызначыу пэуны плян працы на далейшы час да склікаьня зьезду «Маладняка», які намечаны на травень (май) месяц.

Такі шлях да ауладаньня мастацкай літаратурай пролетарыятам і сялянствам на беларускіх загонах. Гэты шлях паказаны кастрычнікавай рэвалюцыяй. І мы бачым, як шырока разгартаецца ен сярод працоуных мас Беларусі і вядзе да узрашчэньня маладняка у новай беларускай пралетарскай культуры наогул.

„Вясну радзіла восень,“- сказау адзін паэта маладняковец. Так „Маладняк“- гэта вясна кастрычнікаускай восені. Але за вясной ідзе лета, калі сьпее багаты ураджай ад вясновай шчырай і рупнай сяубы. Каб мець гэты ураджай-адна задача стаіць перад маладымі мастацкімі сіламі, якія абуджаюцца сярод працоуных мас Беларусі. Гэта-шчыльней гуртавацца вакол „Маладняка“ і шляхам колектыунай працы апаноуваць беларускай мастацкай літаратурай, як зброяй клясавай барацьбы, як адным з сродкай соцыялістычнага будауніцтва.

У праціуным выпадку ею апануюць сілы варожыя пролетарыяту і сялянству у інтарэсах прыгнечэньня беларускіх працоуных мас.

Усе, каму дарагі інтарэсы пролетарыята і сялянства, каму дарагі інтарэсы кастрычнікавай рэвалюцыі, павінны сур‘езна задумацца над пытаньнем ауладаньня мастацкай літэратурай.

На Беларускіх загонах гэты працэс апанаваньня літэратурай

распачаты «Маладняком» і пры падтрыманьні рабоча-сялянскай моладзі, ен дойдзе да канчатковай мэты, да стварэньня беларускай пролетарскай культуры.

Зарунела, зарунела аксамітам...
Рэчкай срэбнай—сонцам залілося...
На палех здратованых, прыбітых,
Паглядзі!... Вясну радзіла восень!...
Маладняк зялены, бач, кудравіць,
Ахіляе край іскравым лісьцем...

Так пяу Чарот. Я толькі дадам, што узыходзіць ен кудравы ужо і на Калінінскіх загонах.

Ул Дубоука.

(*Маладняк*)

## Адрывак з паэмы

# „Грахі чубатыя“.

Пра паходы ня буду,
Ды і песьня мая не такая.
Не таму, што ня люба,
Каб гісторыя ласкатала.

А ці чуу ты, мой аднамыслы,
Што у архівах пра вескі заснула?
Я сьвядома, зусім сумысьля
Успомніу Івана Вашчулу.

Пасьцілау паноу на балотах,
Крычаватку прудзіу панамі.
Ну, вядома, хадзіу у ботах
І нічога ня чуу аб панаме.

Тысяча семсог саракавы
І цяпер яшчэ помніць Крычау.
І цяпер яшчэ памяць раскола
Ксендз лагодным поркае лычам.

«Цала людносьць жыла под страхэм»
(Люднасьць такая—пані з цястэчкам)
«Допукі не удало сень» чужымі рукамі)
«Распрошыць банды збуецкей»[1])

Што-ж забілі цябе, Вашчула,
А жывеш і ныне і прысна.
Можа сходзіць хто раны пашчупаць
І спрабуе Лявоніхай трызьніць?!..

А я—засьпяваю папросту—
Сумна мне, што ня быу з табою.
І спатканьне наша і росгань—
Гэта толькі туман над ракою.

---

[1]) З польскай кнігі, за адсутнасьцю лацінскага шрыфту-друкуецца нашым.

Толькі бачу—высокі, стройны,
Крыху згорбіуся—цяжар ня легкі.
Падкруціла цябе народнае строма,
Рызыканта жвір не спалохау.

Не аб тым шкадавау атаман
Што сабакі пагрызуцца за косьці.
Ня будзе сялян каму ратавацъ,
Сенажаць хто панскіх галоу пакосіць?

Табе маці качала калшулю,
Сьлезы матчыны зрэб'е бялілі.
Ах, Вашчула, Іван Вашчула.
Не памерыу жыцьця на мілі...

Аксаміт кармазынавы слауся
Над вершалінай цемнага бору.
Палажылі цябе не на лауцы,
Не пад дубам, ня у Селінскай зборні...

Аксаміт кармазынавы віуся
І зьнікау і хавауся за пушчай.
Гэта попел засыпау вуглі усе
І праменьні яскравіць ня пусьціць.

Раскажы, атамане, далекі.
Бо цябе, напэуна, пасочым:
Як кусала сябе за локці
Гэта квола—шляхетная сволач?

Ці кляау, за што іх караеш?
Самі ведаць зауседы павінны,
Ах, ты, сосна мая баравая,
Ах, вы, ягадкі з горкай рабіны! .

Калі помста—крышы навакол,
А за тое—што гнулі ляшчынай.
Можа, думаеш, гэта легка
З роспачы зубы заціснуць шчыльна?

---

*Увага ад аутара.* У 1740 г. Іван Вашчула, з вескі Селіна ля Крычава, падняу паустаньне супроць паноу. Як паведамляюць гісторыкі, яму на кароткі час удалося апанаваць гор. Крычавым, дзе ен і зрабіу быу сваю сталіцу. У гэтым часе, як зазначае і 5-ая страфа, „акалічнае жыхарства (трэба разумець паноу) жыла пад страхам, пакуль не удалося разьбіць Вашчулу".

Дзеля гэтага, у далейшым сялян ля Крычава пачалі клікаць «вашчукамі». Ясна, што у гэтым прозьвішчы нічога дрэннага няма, апрача гонару.

Аутар разглядае свой твор, як чарнавік.

Поуную поэму напіша тагды, калі зьбярэць усе матар'ялы аб паустаньні.

*Увага ад рэдакцыі:* 1) Цястэчка—печенье. 2) Строма—вір, поток, страмніна. 3) Аксаміт—бархат. 4) Кармазынавы—малінавы (колер). 5) Квола-шляхетн.—нежно-благородная. 6) Роспач—гнев.

А. Гурло.

(*Маладняк*).

## Веснавое.

Зьняла вясна вузор ваконны,
Што сплеу калісь мароз—мастак,
І новай песьні чутны звоны,
Відна скрозь шыбы пекната.

Усе рвецца у далі неспакойна...
Вятрыска гоніць кучы хмар
З упартай сілаю падвойнай—
На небе месца ім няма?

З узгоркау жорала ліецца—
Якая сіла, пэнт які!..
О, ты, разбуджанае сэрца,
Былога сум навек адкінь!

Дай струнам больш маім прастору,
Сьпяваць каб песьню у такт з вясной;
Чарней, раля, на касагоры,
Руней квяціста і хмяльно!

А ты, мой сад, адзенься лістам,
Прытулкам будзь дзеля красы,
А у самы дзень вясны урачысты
Прастор ты кветкамі абсып.

Алесь Дудар

(*Маладняк*)

# Беларусь.

Край шумлівых лясоу... Край дрымотных балот...
Край адвечнаю крыудай замучаны...
Дзе над доляй людзкой плакау сумны чарот
Ды сьлязіліся вербы плакучыя..

Уладау, хто хацеу, гэтай сумнай зямлей.
Усе суседзі над ей гаспадарылі—
То спрауляу зьдзек і гвалт пан варшаускі над ей,
То тапталіся боты баярына.

І ляцелі вякі... І гаротны народ
Вечна гнууся пад цяжкай нядоляю...
І марнеу сумны край,—край лясоу і балот...
Люд гібеу у нудзе беспатольнай.

Час вялікі настау... Загарэуся пажар..
Зазьвінелі палацоу ваконьніцы..
Усход агнямі прабіу цяжкі мур чорных хмар,
Заглянула к нам раніцы сонца.

І падняу галаву, разагнууся народ,
Разгарнуу свае цела сталевае.
І над сумнаю рэчкай шумлівы чарот
Засьпявау, загудзеу песьню новую.

Над зямлею паплыу новы, радасны кліч:
«Бедакі усяго сьвету, злучайцеся!
«Распаляйце у душы слова вольнага зьніч;
«Ад сьмяротнага сну абуджайцеся!»

Новы выгляд прыняу край балот і лясоу,
І здаецца мінуушчына казкаю...
І ня льецца ужо больш кроу гаротных сыноу
Беларусі рабоча-сялянскае.

*В. Гюго.*

# НА БАРЫКАДЗЕ.

Сярод камней, на барыкадзе узятай,
Дзе праведная кроу з нявіннаю лілась,
Быу схвачан хлопчык, гадоу дванаццаць.
«Пракляты!
«І ты мо' з гэтай шайкі?» —Не смуцяся,—
«Так», адказ дау хлопчык.—«Вельмі добра»
Усьміхнууся афіцэр: «Іх усіх паачародна
Разстрэліваць пачнуць; прыдзе і твой чарод».
Перад дзіцяцем кулі засьвісталі;
Ен бачыу, як радамі ля варот
Таварышы яго бязмоуна паміралі.
Ен падышоу к начальніку: —«Аддаць
Гадзіннік я хачу сваей матульцы;
Дазвольце к ёй схадзіць мне». —«Ба! удрапь
Замысьліу, брат? Бач, страшны кулі нашы».
—«Я зараз-жа вярнуся, капітан».
«Дзе ты жывеш?»—«Вось там, дзе той фантан»
«Ну, негадзяй, бяжы!» І хлопчык тотчас скрыуся
І строй салдацкі сьмехам разразіуся,
І стогн канаючых ен заглушыу.
—«Вярнуся,—бач, які... Вось дык штуку ен
[врабіу!...»
Калі-ж жа раптам зноу хлапчук зьявіуся,
Сьмех заціх; гэтага ніхто ужо не чакау...
Ен да сьценкі сьмела прысланіуся...
Прыгожы, цьверды, горды ім сказау:
«Страляйце!... Я гатоу!...»

*Пераклау МУЗЫКА.*

*А. Карачун.*

## Блізка час расплаты!..

*(Пасьвячаю т. Ланцуцкаму).*

Галодных брат, таварыш бедных,
Ты на змаганьне даў зарок.
Цяпер у турме... У дні бесхлеб'я
Скаваў цябе «вяльможны» рок!

Між сьцен сырых зялезны краты...
А там, як здань, Камуны дух...
Зубамі ляскаюць шакалы «дэмакраты»
На тых, хто есьць працоўных друг!..

У крыві, няволі, зьдзеках болі
Дзяржаць увесь працоўны люд,
І над Ланцуцкім—сынам волі,
Спраўляюць свой крывавы суд!...

Няма як вынесьці!.. Сьцярпець!..
Няпраўды, зьдзеку і тыранства...
Помста... Помстай рваца і кіпець!..
Трывогу біць!.. Пратэст!.. Супроціў
[панства!..

Настане час расплаты! Трэснуць краты!..
Мяцежу хваля змые ўсе нашчэнт..
І узойдзе сонца!.. Зьнікнуць каты!..
Над Польшчай запануе Волі сьвет.

Над цемнай Белавежы пушчай
Чырвоны сьцяг!.. Забіт пан—лях
Мы ўсе сям'ей—народнай гушчай,
Сьцялцем квяцісты жыцьця шлях!..

**Кузьма Черны.**

# Дзякуй богу, як шклянка.

1.

— Што гэта у вас, сьвята якое ці сход?

— Ды не, таварыш, гэта бабы б'юцца.

— Як усе?!

— Не, сягоньня усяго дзьве.

— А у вас хіба й пабольш б'юцца?

— Уга-а-а!.. Каб толькі здароуя. Вунь на сьвятога Юр'я, як бацюшка сьвянцонаю вадою гавяду акрэплівау, дык бабы як пачалі дзеркачамі хвастацца—усякая хацела першай сваю карову падагнаць, проста бяда. Прышлося вадою разьліваць.

— Сьвянцонаю?

— Не-э-э!.. Чорт яго сьвянц... Цьфу, каб ты згарэла... Бог яго сьвянцонае набярэцца, гэта хаханьні—на гэтакі гурт. Хацяж простаю, з Мікітавага вядра.

— Ну, а чаго-ж цяпер вышлі усім сялом?

— Глядзець.

— Хіба гэтак цікава?

— Ого! Часам і мужчыны глядзяць, глядзяць ды й давай самі.

— Э-э-э, дык у вас, значыць, баявая веска!

— Чорта яна баявая. У выпадку чаго, дык усе па кустох.

Ха-ха-ха! заліліся камсамольцы рогатам на усю вуліцу пасьля такога адказу.

— Гы-гы-гы!—рагаталі яны доуга, пабраушыся убокі і аж прысядаючы к зямлі.

— Чаго паехалі!—раззлавауся пасьля такое выхадкі стары дзядок—чаго, блазнота?..

— Ха-ха-і-і-гі-і!..—доуга ня мог стрымацца адзін, Грышка.

— Ну, дык завядзі нас, дзядуля, у свой сельсавет,—папрасіу другі, Ванька.

— Э, не-э-э,—зацягнуў дзядок,—не-э, на гэта—каюк. Наш сельсавет на той бок рэчкі, за дзьве вярсты, у весцы «Гнілым Балоце». Там і пячаць, а у нас адзін толькі член ды й той увесь аблузаны.

— А-га-га-га-хі-го-о!..

— Ха-ха-ха-ха! А браткі-ж, як гэта аблузаны?

— Ат, што з блазнотаю гаварыць,—махае рукою дзед, зусім ужо раззлаваўшыся на няўважлівых рагатуноў,—скажы ім, як людзям, а яны залягаюцца на ўсю вуліцу, чорт ведае чаго.

—Ну, як-жа не рагатаць, дзе гэта відана, каб члены сельсавету былі нейкія аблузаныя. Што гэта, прозьвішча такое можа ці якое ліха?

— Не, якое к чорту прозьвішча. Ты не рагачы, а слухай. Гнаў ен, значыць... уга-а-а, калі гэта было, яшчэ перад калядамі... самагонку. Ды, як чорт надаў, разарвала ўсю гэтую яго прыстройку. Вось яго ўсяго і абкаціла кіпнем, небараку, як япрука. Так і ходзіць аблузаны.

— Ну?!. Ха-ха-ха!.. А-яй, вось трапілі у весачку...

I два камсамольцы рагочуць на ўсю вуліцу. А вакол іх ужо зьбіраецца грамада. Там, далей, яшчэ чутны піскілвыя крыкі, лаянка, відно, як мітусяцца у паветры над галовамі радасных мужчын і баб растрэсаны дзеркач і нешта верткае, пакручастае, ні-то скрутак чорных нітак, ні-то скручаны ручнік. Чутны вясёлыя крыкі ўзбуджаных мужчын:

— А-та-та-та, лупі, лупі чорт д'ябла!

— Так, так, так, г-г-г-ух!.. Гоп!

— Але цэнтр увагі ужо тут, і патроху там усе пачынае заціхаць. Шэраю, шчыльнаю сьцяною абкружваюць Грышку і Ваньку мужчыны, чухаюць бароды, скрабуць за каўнярамі і глядзяць на новых «відаць, гарадзкіх» хлапцоў.

— Ну, дык дзе-ж ваш той аблузаны, хоць-бы пaглядзець на яго, які ен?

— Ен...—пачаў дзядок і раптоўна змоўк, адчуўшы, як яго моцна штурхануў пад бок сусед, малодшы, увесь, як агонь, рыжы, доўгабароды чалавек.

— Дурань ты,— накінуўся ен на старога,—хоць і у бацькі мне гадзішся. Няпраўда, браткі,—зьвярнуўся ен раптоўна да камсамольцаў,—мала што ен тут вам брыдзіць. Ня слухайце яго, гэта ен ня хоча палохаць вас. Якая тут к чорту самагонка, гэта хвароба такая пануе у нас, пошасьць. Вельмі заразьлівая, так зразу увесь твар і аблазіць.

— Камсамольцы зьмікіцілі, што тут вядзецца нейкая «палітыка».

— Асабліва на сьвежых людзей вельмі бярэцца,—гаварыу далей рыжы,—хіба, браткі, мы раім вам, уцякайте адгэтуль як мага!

— Э-э-э, вунь куды загнуу!—засьмеяуся Грышка.—не баімся, мы дактары ад усіх хваробау.

— Пайшоу ты к чорту!—загаманіу ціха дзядок. крыва ухмыльнуушыся і уціскаючыся назад у грамаду,—найшоуся доктар, смаркач нейкі!

— Многа гэтакіх дактароу знойдзецца.—пачууся яшчэ адзін голас,—давай адно усякаму.

— Што давай?—запытау Грышка, ужо й сам дагадаушыся.

— Калі вы запрауды доктары і прыехалі лячыць нас,—зноу загаварыу рыжы,—дык мы й самі лечымся бяз ніякіх дактароу. Няма у нас чым плаціць вам. І аднаго трудна аплаціць.

— Якога аднаго?

— Што часамі, гады-у-рады. прыяжджае з валасьці, з мястэчка. Часам, як хто захварэе, дык прывозяць багатыры, а ён усе кажа—давайце яму.

— Слухайце,—выступіу наперад шчупленькі чалавечак, з падсьлепаватымі чырвонымі вочкамі,—калі гэта трэба вам узяць тут фурманку, дык нічога ня будзе, ня варта нават і быць вам тут доуга. У «Гнілое Балота» ідзеце, там вам будзе і фурманка й шмурманка. А тут няма каму, нават і пячаць там. Я-ж кажу.

— Ды нам вашай фурманкі ня трэба. Нашто яна нам. Мы сваімі нагамі ходзім,—адказау Грышка.

А Ванька запытау:

— У вас тут, мусіць, хаты-чытальні няма?

— Якое гэта шпітаньні?—пачууся голас.

— А другі, ні-то жартам, ні-то сур'езна сказау.

— Ніякай шпітабьні у нас няма, а есьць толькі шпіталь вар'ятау,—і сказаушы гэта, зарагатау і усе зарагаталі.

— А што гэта за установа такая,—запыталі насьмешліва хлопцы,—гэта можа у нас замест сельсавету?

Не,—адказалі з рагатам,—гэта у нас сьвятымі днямі моладзь зьбіраецца у Марціна Галавешкі гуляць. Ды там, набраушыся да адказу, заусёды галовамі ходзяць. Дык старыя й празвалі Марцінаву хату шпіталь вар'ятау.

— А у вас усе маладыя такія?

— Ды можна сказаць усе. Што ім рабіць,—адказау дзядок і аглянууся вакол сябе.

Аглянуліся й камсамольцы.

Бабы ужо пакінулі біцца і усе падышлі сюды. Сталі зьяуляцца і хлопцы. У кожнага над левым вухам віуся чуб «паказацку». Амаль не на усіх былі шырокія, жоута-чырвоныя рыменныя паясы, з усякімі бляшкамі і бляшачкамі. Пападаліся галіфэ—чорныя, зяленыя і усе з чырвонымі або жоутымі кантамі. Але гэта былі саусім яшчэ маладзенькія хлопцы, старэйшыя-ж наперад ня лезлі, а гаманілі з мушчынамі ззаду.

Сонца весела смаліла зямлю.

Грышка і Ванька пашлі у цень і селі на прызьбу. Мужчыны —хто пашоу да дому, хто, разам з хлапцамі, падышоу к прызьбе. А Грышка і Ванька сядзелі й аглядалі няпрывычны для іх малюнак: каля кожнага калодзежа была напалавіну вуліцы зяленая лужа, разам з качкамі плюхаліся тут дзеці, а другія качаліся збоку у пяску разам з вераб'ямі і пісклівымі парасятамі. Каля платоу соуваліся сонныя сьвіньні. З гультайскім рохканьнем і філёзофскім выглядам яны павolі чухаліся аб шэрае дзерава.

Грамада сабралася каля прызьбы.

— Вы, браткі, ведаеце, чаго мы к вам прыехалі?—запытау Грышка у хлапцоу.

— Ну, чаго?

— Гэта мы, значыць, прыехалі узяць шэфства над вамі, над вашаю вескаю. З гораду мы прыехалі. Шэфамі вашымі будзем. Ведаеце, што гэта такое?

— Ну, што?

— Гэта значыць на манер вашых старшых братоу будзем Калі што трэба будзе памагчы вам альбо парадзіць—мы у гэтым першыя.

— Паможыць, памочнік знайшоуся,—забубніу дзядок, махнууішы рукою і падступаючы на крок бліжэй,—ды хто вы такія будзеце?

— Мы камсамольцы. Чулі гэтакіх?

— Чаму не! Цяпер-жа іх расплодзілася, як грыбоу пасьля дажджу,—зацягнуу дзед цененькім галаском,—вунь па усіх вёсках, куды ні глянь, дык гэтых кансамолау што робіцца-а-а—страх! Не адцерабіцца! Адно, дзякуй богу найвышшаму, у нас іх няма. Бог крыу.

— Наша вёска, дзякуй богу, чыстая, як шклянка,—падкрэсьліу яшчэ адзін дзядок.

— Гэта хаханькі,—гаварыу першы,—ка'а, бога няма, папа ня трэба, жывем мы, ка'а ня гэтак, як трэба. Дык чорт-жа яго мацеру й бацьку ведае, як ужо тут жыць! Проста даунейшых дамакратау прайшлі.

— Ат,—пачууся голас,—што галава, то розум. Я вам, браткі, скажу...

— Пачакай, я скажу,—перабіу двед, хітра, весела паглядаючы на камсамольцау,—тут яно робіцца гэтак, Я табе, тымчасове, пане Матусэвіч, скажу (дзед панізіу голас і паляпау па плячу суседа). Гэта якраз тое самае, як дауней польскія мяцежнікі сьпявалі:

,,Палем хаты, ламем праслы—
Будзем есьці курку з маслам,
Будзем піць,
Будзем хораша хадзіць"...

— Тут яно так, усякі у сваю капэльлю заве ды й нязнайся:

— Ты, дзядуля, усе-ж-такі маладзец, што гаворыш сьмела тое што думаеш,—адказау Грышка,—але паслухай, паслухайце і вы хлопцы! Добра гэта, што у вас кожны дзень бабы дзеркачамі хвошчуцца або што доктар дзярэ, калі прыедзе раз у год к хвораму. Народ-жа у вас часта хварэе?

— Ну, ну, страляй далей,—насьмешліва сказау дзед.

—Пад'яжджаеш то ты, сынку, добра, як то выедзеш?

— Я пытаю, народ у вас часта хварэе?

— Часта,—адказалі хлопцы,—нават і цяпер многа ляжыць на крывауку.

— Ну, от, бачыце. А доктора няма? Чаму?А ты, дзядуля, кажаш, што вельмі добра жывеце.

— Мы лечымся самі,—адказау дзед,—зельлем. А у ,,Гнілым балоце" жыве шаптун Бандарчык, дык ен хворых праз дуплыяу дуб працягвае і дзешава бярэ. А на доктара мы ня лішне квапім—Бандарчык дзешавей. А зельле мы самі рвем каля рэчкі у «Бушылаве»—кусты, гэта так у нас празываецца.

— А многа памагае Бандарчык і зельле?

— Калі бог дасьць, то паможа.

— Але-ж, пэуна, многа і уміраеце?

— Ну, каму суджана, той умірае.

Дзед ужо саусім стау сур'езны, а хлопцы сказалі:

— У нашага папа хварэлі дзеці на крываўку, дык доктар і ня вылазіў з ха·ы, усе й выздаравелі, а у панамара Юстына таксама хаарэлі, дык абое й памерлі бяз доктара.

— Ну, бо ім гэтак суджана,—адказау сур'езна дзед—ім гэтакі век назначан.

— Якое к чорту суджан·,—сказау адзін з хлаппоу,—чаму-ж поп не глядзіць на гэтае „суджана", яму на карысьць. А вы гаворыце, што вельмі тут у вас усе добра. Або якая карысьць вам, што вашы каровы поп валою абкрапліває, а бабы дзеркачамі хвошчуцца каля яго? Пэуна-ж, не дарэмна поп гэта робіць!

— А папу ня трэба жыць?—закрычау дзед.—Ен-жа на гэта вучоны, што-ж яму рабіць?

— Няхай-бы вучыуся чаму іншаму, няхай работу робіць і будзе жыць.

— Ня дуры мае галавы!—махнуу рукою дзед, зусім зьбіты з панталыку.

— Смаркач аблезлы,—вылаяуся ен ціха і злосна за тое, што не найшоу чаго адказаць гэтаму вяселаму хлопцу які няведама адкуль зьявіуся.

І пайшоу дзед, ціха бубнячы пад нос. За імі і усе старыя пачалі разыходзіцца.

— А Грышка і Ванька доуга яшчэ гаварылі з хлапцамі. Хлопцы як-бы й самі адчувалі усю супярэчнасьць быту сваей вескі. З камсамольскай-жа працай яны былі знаемы з суседніх валасьцей і весак.

— Дык вось, браткі,—гаварыу Грышка,—мы, арганізуем у вас камсамол. Будзем к вам часта прыяжджаць. Адчынім чытальню—у валасьці пакінулі мы цэлую зьвязку кніг і газэт. Вы павінны ужо нам памагчы даставіць іх сюды к вам...

Ужо заходзіла сонца. Пацямнеушая вуліца пыліла ад прайшоушага з поля быдла, як хлопцы сталі разыходзіцца.

## II.

Грышка і Ванька начавалі у весцы. Завеу іх у сваю крайнюю у вуліцы старую хату Міколка, саусім маладзенькі хлапецпадростак. Вечарам яны утрох сядзелі на вуліцы, на прызьбе й прыслухоуваліся к вячэрняму жыцьцю глухой, старой вескі.

Тыя самыя хлопцы, якія днем слухалі іх, цяпер «гулялі» па вуліцы. Яны хадзілі «пасалдацку у ногу» і дралі ува усе горла розныя песьні, якіх Грышка з Ванькам дауно ужо ня чулі.

—«Маладая дзяучыначка сына радзіла»,—драу дзіцячы, нявоуны голас.

З неміласэрдным сьвістам і бразганьнем у нейкую бляху хлопцы хваталі далей:

—«Р-р-рыбалоуцы хлопцы рыбу лавілі; трай-рай, ра-та-тай, рыбу лавілі. Не спаймалі шчупака, спаймалі ліня, разьвярцелі, паглядзелі—там было дзіця»...

—Якія-ж тут у вас яшчэ старыя песьні сьпяваюць!—гаварылі Грышка й Ванька Міколку, слухаючы.

—Яны сябе завуць чамусь-то дзявятаю ротаю,—сказау Міколка,—і што выраблюць—страх, часам чуць вокан ня б'юць.

І тут-жа міма іх прайшла другая «рота-кучка» зусім яшчэ малых хлапцоу—гадоу па 13. Яны нечакана вынырнулі аднекуль са змроку і зразу напоунілі вуліцы моцнаю «салдацкаю» лаянкаю і заліхвацкімі славечкамі. Потым выбег наперад адзін і загукау на усю вуліцу, размахваючы рукамі.

—«У імя айца—Мацьвей з канца і духа сьвятога—Кузьма з другога. Амін—Францішак дваранін».

—«А Міхалка яго сын!»—гукнулі усе гуртам, ня даушы яшчэ таму скончыць і на усю вуліцу зарагаталі.

—Што гэта значыць?—запыталі хлопцы у Міколкі.

—Гэта яны «перахрысьцілі» веску,—адказау Міколка,—з канца Мацьвей—мой бацька, з другога канца вуліцы жыве Кузьма, а пасярэдзіне—шляхціц Францішак з сынам Міхалкам.

Грышка і Ванька доуга рагаталі.

—Урра!... Ядры вашу палку, лупі, бі-і-і!...—няслося з другога канца вуліцы.

—А гэта,—паясьніу Мікола,—мусіць падплыушыя хлопцы „гуляюць".

—Ну, браткі, і жывеце вы,—гаварыу Грышка Міколу,—прыдзецца у вас тут здорава папрацаваць.

Вуліца стала заціхаць каля 12 гадзіны ночы...

А назаутра—у нядзелю—Грышка і Ванька сазвалі сход вясковай моладзі. Прышло трохі й старых.

Грышка доуга тлумачыу аб арганізацыях моладзі і іх мэтах.

—... Каб разумна жыць, трэба старацца усе ведаць, што робіцца на сьвеце. А то часта глухая веска ня ведае, што робіцца нават у сваім павеце, -закончыу ен свае слова.

Учарашні дзядок, які пацікавіуся прысьці й сягоньня, насьмешліва махнуу рукою і з ухмылкаю сказау:

—А нашто мне канечна ведаць, што робіцца недзе там, невядома дзе. Я, дзякаваць богу, пражыу на сьвеце 70 г., прайшоу за свае жыцьце чорт ведае колькі мясцоу, паусотні гарадоу праехау, а папытай, дзе я быу? Чорт яго ведае. Я ня ведаю, бо ня цікавіуся. На чорта яно мне. Аднак жыву ня горш за людзей. Былі тры жонкі—кожная перада мною слова сказаць баялася, бо я быу гаспадар. А на чорта мне там ведаць, што дзе за сьветам робіцца. Што яно мне хлеба дасьць?!...

Усе хлопцы зарагаталі.

Дзядок ня спускау з губ ядавітае ухмылкі, гледзячы на камсамольцау.

І тут-жа хлопцы пачалі спрачацца, зацікавіушыся дакладам.

Потым камсамольцы слухалі, што хлопцы гаварылі пра сваю веску.

Многа хварэла тут дзяцей, зьбірау поп па некалькі разоу на год свой падатак, доктарам для усіх быу суседняй весцы шаптун Бандарчык. Было па некалькі фэстау на год, у якія пасьля абедні у царкве уся веска залівалася самагонкаю. Ня было тут і школы.

Усе гэта Ванька запісау.

А Грышка на усім гэтым пабудавау свой наступны даклад. Ён доуга гаварыу аб прычынах такога цемнага і шкоднага жыцьця, аб дзіцячых хваробах, аб жаночым горы

І калі стау гаварыць аб тым, як многа умірае дзяцей па вёсках, дзядок ужо чамусь-то не сьмяяуся.

У дакладзе сваім Грышка выявіу прычыны усіх вясковых бед і намечаны шлях барацьбы з імі.

Нарэшце сход моладзі вынес пастанову адчыніць хату-чытальню і школу. Камсамольцы абяцалі паклапаціцца у горадзе, каб сюды прыслалі доктара агледзіць веску. А потым згаварыліся усе гуртам пайсьці у воласьць—забраць астауленыя камсамольцамі кніжкі для чытальні, а вечарам знайсьці хату для яе.

Будзем мы прыяжджаць к вам часта,—сказау нарэшце Грышка,—каб выцягнуць вашу веску з тае ямы, з якой яна цяпер сьвету ня бачыць. А цяпер, хто хоча стаць камсамольцам, каб працаваць разам з намі!?

І хлопцы, адзін за адным, сталі падыходзіць к сталу.

**А. Вольны.**

# Калі дзяк гаварыць прауду.

Агіт—жарт.

## Увагі да пастаноукі

Сцэна—звычайная вясковая хата. Стол, некалькі зэдлікау альбо лаука. На сьценцы адзін ці два партрэты правадыроу рэволюцыі.

Зьмест п'есы наступны. Адбываецца сход ячэйкі, у хату уваходзіць зусім п'яны дзяк і пачынае пяяць. Хлопцы парашылі раз назауседы правучыць дзяка. З гэтаю мэтай яны выбягаюць за сцэну, адзяваюцца у вопраткі багоу. За каунер выцягваюць на сцэну п'янага дзяка, пераконваюць яго, што ен папау на той сьвет і што гэта страшны суд і прымушаюць яго гаварыць прауду аб тым, як ен адурманьвау сялян.

Пасьля гэтага камсамольцы выходзяць, скідаюць свае «боскія» вопраткі і зноу звычайнымі камсамольцамі.

Гэтым часым дзяк на сцэне засыпае. Адзін з камсамольцау, зьвяртаючыся да прысутных у хаце, кажа: «Запомніце, добра запомніце словы дзяка, бо ен, як прачнецца, па свайму звычаю пачне зноу маніць». І сапрауды дзяк прасыпаецца і пачынае гаварыць зусім другое.

Зьмест п'есы пакірован галоуным чынам супроць рэлігіі, але адначасна ен таксама паказвае, да якіх непажаданных для дзяка вынікау можа давесьці самагон,—нават да таго, што ен загаворыць прауду.

Спачатку камсамольцы гуляюць саусім бяз грыму, каб атрымоувалася уражаньне сапрауднага сходу, потым—яны «багі»—загрыміроуваюцца і адзяюць на сябе боскую вопратку.

Грым багоу складаецца з таго, што яны проста-на проста падвязваюць сабе бароды з рагожы. Вопратка у іх такая: надзяваюць сабе бароды з рагожы. Вопратка у іх такая: надзяваюць на сябе па дзьве пасьцілкі так, каб адна зпераду прыкрывала звычайную вопратку, другая—ззаду.

Лепей за усе было-б, каб камсамольцы называлі сябар сябра у час гульні сваімі сапрауднымі іменамі, а дзяка-б вялічалі такім імем, якім празываецца мясцовы дзяк; бязумоуна, ня трэба называць яго прозьвішча, а толькі імя.

Але калі гэта можа спутаць хлопца пры гульні, дык тагды лепш завіце такімі іменамі, як тут абазначана.

Іграйце увесь час жартліва, адчувайце, што вы проста падсьмейваецеся над п'яным дзякам.

З сцэнічных прылад патрэбна толькі патэльня.

Вось і усе.

---

## Хто прымае удзел:

1. СЯРГЕЙ
2. ВАЛОДЗЯ
3. АНДРЭЙ
4. АЛЕСЬ
5. ДЗЯК

} Камсамольцы

## ЗЬЯВА І-ая

На сцэне СЯРГЕЙ, ВАЛОДЗЯ, АНДРЭЙ, АЛЕСЬ.

Сяргей. Хлопцы! На павесцы дню у нас засталося яшчэ адно пытаньне: аб дапамозе нашаю камсамольскаю грамадою сем'ям чырвонаармейцау, хто хоча выказацца на конт гэтай справы?

Валодзя. Мне слова, Сяргей. Я хачу адзначыць толькі адно, што у нашай весцы...(*У гэты час праз уходныя дзьверы, праз якія увайшлі усе, выходзіць дзяк, саусім п'яны і крыху заікаючыся сьпявае. Хлопцы на сцэне пры выхадзе дзяка устаюць і прыглядаюцца, нібы ня ведаючы, у чым справа*).

## ЗЬЯВА ІІ-ая.

Тыя-ж і ДЗЯК.

Дзяк. Цябе прынасяшчэ (*аглядаючыся*), а хто-жа тут сідзяшчэ?.. Я, дзяча, выпіваушэ за усіх і за уся... (дзяк паступова узьбіраецца, праудзівей упаузае на лавку і садзіцца там сярод публікі, не пакідаючы гнусавіць). Са сьвятымі упакой (спачатку выходзіць нешта разьвязанае, а потым сьпеу пераходзіць на матыу лявонікі), упакой, упакой, упакой. (Ужо з прыстуківаючымі нагамі сьпявае дзяк, а потым змаукае, нібы засыпае).

Сяргей. Ну, так і есьць. Гэта-ж наш дзяк.

Андрэй. Трэба хлопцы, раз назауседы яго правучыць.

Валодзя. Што правучыць? Перадаць у міліцыю дый усе тут.

Сяргей. Э, не хлопцы! Андрэй прауда кажа. Трэба ужо так правучыць дзяка, каб зауседы памятавау, як добра піць за сялянскія грошы.

Алесь. Вось што, хлопцы! Давайце гэтак зробім... Вы бяжыце і адзеньцеся так, нібы вы багі, потым вы прыходзьце сюды, а я прывяду дзяка к вам, нібы на страшны суд.

Сяргей. А, ну, давайце, хлопцы, і спрауды гэтак зробім, каб правучыць дзяка.

Валодзя. Ага, давайце, давайце. Зробім у нашай весцы яму такі суд, якім ен страшыць на небе.

Андрей. Ну, дык хутчэй-жа давай, Валодзька, пераадзявацца. (Разам выбягаюць за кулісы. Алесь саскаквае са сцены і бяжыць да дзяка. Дзяк пацнос сабе бармоча вяселую песеньку).

Алесь (*загробным голасам*). Ацец дзякан, ацец дзякан, ідзі за мною на страшны суд...

**Дзяк.** Ні... ік.. куды не пайду.

**Алесь.** Ацец дзякан, бог прызывае цябе у абіцель сваю.

**Дзяк** (*бубмочэ*). Ні... ку..ды не пайду. Няхай сам прыдзе калі яму дзяк патрэбен.

**Алесь.** Дзяча, дзяча, хутчэй, бо бог чакае, а бог—гэта-ж табе не ацец благачынны.

**Дзяк.** Маніш. Дзе бог?

**Алесь** (*набчсьнеу*). Блажэнны тыя, як ты казау пры жыцьці, якія ня убачыць ды уверуюць

**Дзяк.** Фя...дора! Фя...до...ра!.. Заступіуся! Зараз, як Фядора прыдзе, дык і бог уцячэ. Фядора!.. Ня хочаш, ну дык пашла ты...

**Алесь.** Блажэнны нішчыя духам, падобныя, як ты, дзяча, в сваім брухам, яко ім мы ўгатуем царства нябеснае. Дзяча, пойдзем, пойдзем!

**Дзяк.** Ну, пачакай. Толькі яек і масла я возьму.

**Алесь.** Не, нічога. Пойдзем уже так. Бо няма часу. (*Бярэ дзяка за каунер і цягне на сцэну*).

**Дзяк** (*на дарозе зацягвае*). Са сьвятымі упакой, есі господзі, егда прыідзешы во царствіі сваем.

**Алесь** (*садзіць дзяка на сцэне*). Сядзі, дзяча, зараз бога пабачыш. (*У дзьверы*). Хлопцы хутчэй!

**Андрэй** (*за дзьвярыма*). Зараз, вось бараду толькі падвяжам... (*пауза*) Ну, вось ужо і ідзем.

**Алесь.** Устань, дзяча. Бог ідзе.

## ЗЬЯВА III-я.

(*Трымаючыся за рукі уваходзяць* АНДРЭЙ, ВАЛОДЗЯ і СЯРГЕЙ. *Пасярэдзіне* СЯРГЕЙ, *які іграе глаубога*).

**Дзяк** (*пяе*). Слава табе, едзінай тройцы і неразьдзельнай.

**Глаубог** (*Сяргей*). Устань, дзяча!

**Дзяк.** А ты хто такі будзеш?

**Глаубог.** Дурны дзяча. Я бог.

**Дзяк.** Бог? А як-жа ты апынууся у нашай весцы?

**Глаубог.** Дурны дзяча! Ня я ў тваей весцы, а ты на небе.

**Дзяк.** Бог, ты не лайся, што я дурны... там бальшавікі лаюцца. Тут ты лаешся. Ні на гэтым, ні на тым сьвеце жыцьця няма.

**Алесь.** Маучы дзяча. Суд пачынаецца.

Дзяк (*падыхадзячы да багоу, пытаецца паказваючы на правы бок ад Глаубога*). Слухай, чаму ад цябе гэтак дрэнна пахне?

Глаубог. Маучы, дзяча. Гэта дух божы.

Дзяк. Дух? А гэта хто? (*Паказвае у левы бок*).

Глаубог. Гэта сын мой. Сын божы.

Дзяк. Сын божы! Дай пацалуемся! (*Дзяк лезе цалавацца' сын божы абарачваецца, нахіляецца і адштурхвае дзяка*)' Госпадзі памілуй, госпадзі памілуй, госпадзі памілуй... Сіе месца сьвята... Прасьці, госпадзі, грахі мае, іжэ словам, іжэ дзелам, іжэ ведзеньем і няведзеньем.

Глаубог. Дзяча, дзяча, ну, цяпер скажы, як абманвау сялян?

Дзяк. Не, божа, ей-жа богу, ніколі не абманвау.

Глаубог. Дзяча, дзяча, а нашто ты вучыу сялян верыць у тое, у што сам ня верыу?

Дзяк. Вось табеісьцінны крыж—верыу.

Глаубог. Дзяча, дзяча, што ты маніш усеведуючаму?

Дзяк. Ну, дык выбачай, госпадзі! Я ж маніу ва славу тваю.

Алесь. Дзяча, не падлізвайся к госпаду богу твайму. Ен усе ведае.

Дзяк (*Паміж сабою*). Дык няужо-ж прыдзецца прауду гаварыць! Памажы, госпадзі. Першы раз у жыцьці гэткае здарэньне выйшла. Ну, благаславі-ж, божа... Не... нічога ня выйдзе... Хоць забі—не магу прауды сказаць. Саракагадовы маю стаж: «не абманеш—не пражывеш!»

Глаубог. Дзяча, дзяча. Што ты лукавае думаеш? Я-ж ведаю і самыя патаемныя твае думкі.

Дзяк. (*выціраючы пот*). Нічога ня будзе. Прыдзецца прауду гаварыць. Вось ніколі не спадзявауся, што гэткае здарэньне выйдзе... А хай-бы яго паралюш хапіу. гэтага бога.

Глаубог. Не успамінай, дзяк, імені госпада бога твайго всуе, гэтаму-ж ты і сялян вучыу.

Дзяк. «Всуе всуе» і саусім ня всуе, а за справу. Адзін раз у жыцьці прауду сказау, ды і то вылаялі.

Глаубог. Ну. дык навошта ты, дзяк, прымушау людзей верыць у тое, у што сам ня верыу?

Дзяк. Адказываць?

Глаубог. Адказывай.

Дзяк. (*штурхаючы бога пад бок*). І не маніць?

Глаубог. Усе роуна пазнаю, калі будзеш маніць. Ну, дык нашто вучыу верыць у тое, у што сам ня верыу?

Дзяк. Ну, дык прауду-ж буду гаварыць. Прасьпі, госпадзі, і гэта мае прагрэшэньне... Вучыу верыць людзей у тое, у што сам ня веpыу, а вучыу таму, што жыць хацеу. І поп наш такі самы, і суседні і валасны, і паветовы і гарадзкі. Усе жыць хочуць.

Глаубог. Ну дык якім-жа імем усе гэта назваць.

Дзяк. «Гаві мавету» і усе тут.

Глаубог. А ты ведаеш што за гэта самае ты патэльню, гарачую патэльню будзеш лізаць? (*К. Алесю*). Схадзі, пасыч і прынясі ад люцыпара, прынясі і трыножкі, каб распаліць патэльню. Зараз-жа ен будзе яе лізаць, гэту патэльню. (*Алесь выбягае за патэльняй*).

Дзяк. Вось табе і усеправіцаючы бог... Патэльню, кажа, гарачую лізаць. Ну, каб гэта яшчэ простым мужыцкім языком, дык тэга-б нічога і нават прыемна было-б пагляджець, а то языком духоунага аванія. Гэта ж гоненіе на духавенства.

Глаубог. Ты, ядасціна, вешта сьвяту, дзяка?

Дзяк. Не, не, гэта я пра сябе. Маліуся, мой божа. Я і на зямлі зауседы так маліуся. Бо, бачыш, малітва бяз слоу—гэта-ж самая гарачая малітва.

Алесь. (*убягае*). Няма трыножак. Я пайду к люцыпару і так як-небудзь распалю патэльню.

Глаубог. Тэлькі хутчэй. Ды скажы архангелу Гаурыле каб каля дзьвярэй на варце стау, бо дзяк яшчэ упякацць захоча.

Алесь. У адну хьвілінку, можна сказаць; усе на «Ъ» зраблю мой божа.

Глаубог. Ну, гані... (*Алесь зноу выбегае. К дзяку*). Дык кажаш, усе папы маняць?

Дзяк. Алеж але, мой божа. Усе, усе.

Глаубог. (*К сялянам*). Вось каб комсамолец гэтак гаварыу, дык ніколі на зямлі не паверылі-б. Можа вы хоць дзяку паверыце? (*К дзяку*). Ну, дык скажы, чаму-ж яны ідуць вучыцца да папоу, калі ня вераць у бога?

Дзяк. Бачыш, справа у тым, мой божа, што калі ідуць вучыцца да папоу, дык тады яшчэ цемныя бываюць, як тыя мужыкі, што у цябе вераць. А потым, як навучацца ды даведаюцца розных навук, дык убачаць, што усе гэта байка—нібы ты стварыу неба і зямлю. Зямля існуе дзесяткі тысяч гадоу, гісторыя зямлі аб гэтым кажа, а ты распусьціу байкі, нібы яна існуе усяго

6... гадоу і пішам аб гэтым у сваім ветхім завеце. А ці-ж ведаеш ты, мой божа, што у часе раскопак у аднэй пяшчэры на поуначы Францыі знойдзены малюнкі, якім вучоныя налічваюць 12.000 гадоу. Не, сапрауды, мой божа твой завет у гэты час разьвіцьця навукі сапрауды ужо дужа, дужа ветхі завет. Далей. Возьмем байку пра раджэньне твайго сына ад непарочнай дзевы. Гэта павінна было быць 1924 гады таму назад. Бо з таго часу у нас і ідзе голапаллічэньне. Шмат помнікау з таго часу ужо засталося у нас, але-ж чамусьці ні адзін з іх нічога ня кажа аб тваім сыне. *(У гэты час сын божы падымаецца і хапае дзяка за нос, Дзяк крычыць).* Ой, мой божа, сын божы за нос ухапіуся! *(Глаубог за руку адцягвае сына і садзіць яго ізноу).* Наогул, у навукі і у бога разнагалосься дужа многа. Вось чаму папы пасьля таго, як атрымаюць асьвету, дык і ня вераць, а толькі ліцамераць.

Глаубог. Слухай, ну, а калі навука, як ты кажаш, разаблачае мае байкі дык чаму-ж аб гэтым не даведаюцца усе?

Дзяк. І ізноу не маніць?

Глаубог. Ну, ну, глядзі мне, а то зараз-жа патэльню лізаць будзеш!

Дзяк *(выціраючы пот).* Не да твару нам, божа, прауду казаць. Але калі патрабуеш—што рабіць?

Глаубог. Ну, ну, хутчэй!

Дзяк. Дык пытаешся, чаму усе не даведаюцца аб гэтым? Сам-жа ведаеш, мой божа, колькі у імя тваё было спалена на кастрох і павешана на шыбельніцах. Павешана за тое, што казалі і даводзілі навукова аб тым, што рэлігія—гэта мана, што верыць у бога, які наогул не існуе—сьмешна.

Глаубог. Дзяк! Адкажы мне і яшчэ на адно запытаньне! Чаму-ж людзі так моцна трымаюцца за рэлігію,

Дзяк. Не яны трымаюцца, а іх трымаюць. Бо рэлігія гэта-ж карысная рэч. Імем гэтай самай рэлігіі, «абяцанкамі-цацанкамі» раю на тым сьвеце,—на зямлі з мужыка тры скуры дзяруць. А мужык за гэта рая чакае.

Глаубог. А за гэткую бязупынную ману ты заразжа будзеш лізаць гарачую патэльню. *(Крычыць).* Алесь! *(Выходзіць Алесь з патэльняй).*

Алесь Нідзе не дастаў вогнішча, на чым патэльню распаліць. Пойдзем адгэтуль, усеміласьцівейшы божа, і нашлем на дзяка сюды чарцей. Яны самі яго у пекла адправяць.

Глаубог Подзем, бог дух сьвяты. *(Уходзяць бог і Алесь).*

**Дзяк** (*гаворыць і плача*). Эх, ацец дзякан, ацэц дзякан! як гэта здарылася, што ты апынуўся на небе?

Такі быў дзяк, такі быў дзяк. Як запяю, бывала, у царкве: «упакой, госпадзі, душу усобшага раба твайго». Як запяю, дык ўсе-роўна, нібы хто рэжа мяне. Так!.. Быў дзяк і няма дзяка. І вось гэтая самая рука, яшчэ так нядаўна была жывая, рухалася к сялянам, з упаваньнем працягвалися, а цяпер вось, як пчецъ, далоў падае.

А зараз вось чэрці прыбягуць і павядуць у пекла. Бедны дзяча, бедны дзяча!

Вось, каб апынуўся цяпер на зямлі, далібог ніколі-б не маніў сялянам.

Але-ж як гэта са мной здарылася, што я памёр. Ну? выпіл з бацюшкам, дык гэта я памятую. Ну, пашоў бэдзяппа па сялу, таксама памятую. Але што далей было—нічога ня памятую. Гэта, мусіць, пасьля таго было—нічога ня памятую. Гэта, мусіць, пасьля таго было ўжо, як я памёр.

Але калі памёр, дзе памёр? А мо' пад плотам дзе-небудзь.. А мо'яшчэ горш,—дзе-небудзь у хлеве... (*Саусім плача*). Ацец дзякан, чын духоўнага званьня ды разам з сьвіньнямі! Фядора, Фядора, і як ты дапусьціла да гэткага гора? (*гаворыць і паступова засыпае. Апошнія словы скрозь сон*).

І апынуўся, дзе горш яшчэ, як у хлеве і яшчэ горш, як з сьвіньнямі... Са сьвятымі упакой... упакой (*Засыпае*).

## ЗЬЯВА IV-зя.

*Выходзяць* АНДРЭЙ, АЛЕСЬ, СЯРГЕЙ, ВАЛОДЗЯ *бяз грыму*.

**Сяргей** (*к сялянам*). Ну, таварышы, ці чулі вы калі-небудзь раней папа, калі-б ен праўду гаварыў? Не? І я таксама першы раз чуў. Ну, такі ужо папоўскі абавязак—ніколі праўды не гаварыць. «Жыць хочуць»...

Дык запомніце-ж, таварышы, добра словы вось гэтага дзяка, бо ен як прасьнецца, дык вось пабачыце—зноў пачне маніць. Запомніце ж добра яго словы. Бо дзяка да гэткіх выпадкаў, калі ен пачынае гаварыць праўду, можа давесьці толькі гэтакае становішча. (*Дзяк у гэты час ікае. К хлапцам*). Разбудзеце-ж дзяка! (*Хлапцы расштурхваюць дзяка*).

**Дзяк** (*прачынаючыся заводзіць*). Са сьвятымі упакой, есі госпадзі... (*Аглядваючыся пачынае церабіць сабе валасы*). А дзе, дзе бог? (*Хлопцы сьмяюцца*).

Андрэй. Вы, бацюшка, па звычаю, здаецца, крыху падвыпілі ды і прышлі сюды к нам. Тут у нас сход камсамольцау.

Дзяк (ускгківчв, напалохаўшыся і заікаючыся). Ка...ка... ка.. смамольцау? (*Выцірае пот*). Фу... Лепш-бы я патэльню лізау.

Валодзя. Вы, здаецца, нешта сказалі, бацюшка?

Дзяк. Не, не, нічога. Я, в...в... вельмі—зауседы з камсамольцамі.

Андрэй. Так, так. Вельмі, як сабака з катом.

Дзяк. Вы нешта сказалі?...

Андрэй. Не, нічога. Я сказау, што камсамольцы таксама зауседы.. вельмі за папоу.

Дзяк. А мне здалося...

Валодзя. Дык перахрысьціцеся, калі здалося.

Дзяк. Так, так, дзеткі. Трэба хрысьціцца. Трэба верыць у бога, бо бяз бога...

Сяргей (*са съмехам*). Ну, вось, вось... зноу пачау зараблять хлеб.

(*Заслона*).

Н. Рубахін.

# „Адзін з многіх“

(з жыцьця сялянскай моладзі).

## ЗЬЯВА У 1 ДЗЕІ.

Дзея адбываецца ў вадной з вёсак Беларусі ў час наступленьня бела-палякаў у 1919 г.

Абстаноўка багатай сялянскай хаты. Направа, на заднім пляне — «русская» печ. Управай сьцяны — вакно. Прама дзьвер у сені, у левым кутку шмат абразоў. Каля дзьвярэй на сьцечцы павешаны «платья». З лева, на пярэднім пляне стаіць стол, на ём лямпа. Вечар.

---

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

1. Макар — багаты серадняк
2. Варвара Ягорауна — жонка яго
3. Сымонка } іх дзеці
4. Дуня }

### ЗЬЯВА 1-я.

**Дуня.** (*Пры падняцьці занавесі, яна сядзіць каля стала й чытае кніжку. Перыадычна уздрыгвае, спалохана паглядае на дзьверы. Баіцца каб яе не заханілі за праступнымі занятками. У сянях чутны шагі. Дуня уздрыгае й хутка хавае кніжку пад хвартух*)

### ЗЬЯВА II-я.

**Сымонка.** (*Хутка увахбдзіць і вешае шапку на цьвік*)

**Дуня.** (*Кладзе кніжку на стол*) Адкуль ты, Сымонка?

Сымон. З саюзу, са сходу. Ну і шуму-жа было!

Дуня. Ну што-ж парашылі?

Сымон. (*садзіцца каля стала*) Канчаткова! На фронт едзем. Я, Мікола, Федзька, Грышка, Старасьцін, Ванька Гусіхін.

Дуня. (*спалохана*) Як? Адразу на фронт?..

Сымон. (*бадзёра*) — Канечна, адразу. Ехаць дык ехаць. Чакаць няма чаго.

Дуня. (*устрывожана*) Як-жа гэта? А татка.

Сымон. (*устае*) Што, татка! Татка справа дзесятая. Скажу, што так і так, і крышка.

Дуня. (*устае й вылазіць з за стала*) — А то пачакаў бы ты, Сымонка, тыдні два ці тры.

Сымон. А дзеля чаго? Разам «старонку» чыталі, сама згаджалась, што ехаць трэба, а як да справы дайшло дык у бок,

Дуня. Не, я ні у бок, а усе-ж такі неяк страшна (*устрывожана*) — А калі заб'юць цябе ці памрэш.. (*выцірае сьлезы*).

Сымон. Ну вось, сказанула! Няўжо ўсіх забіваюць? Вось Ванька Масяк, хутка ужо год, на пазыцыі, а ўсё-ж жыў.

Дуня. (*плача*) Сымонка... Сымонка...

Сымон. (*абдымае яе, гладзіць і пацяшае*) Нічога, Дунячка, няплач, буду жыць. Справа, ты сама бачыш, вельмі вялікая.. Там б'юцца за зямлю, за Саветы; як-жа мы тут сядзім (*чэша галаву*). Вось, наконта гаспадаркі толькі. (*хлопае яе па плячу* (*весяла*) Ну, нічога, ты дзяўчына здаровая, бацька з маткай таксама покуль ня думаюць на печку лезьці. Праз хвіліну мяне як карова языком злізала.. І ня забачыш, быў я ці не? (*падыходзіць да стала, бярэ кніжку*) Прачытала ты яе (*абодва садзяцца*).

Дуня. Не яшчэ. Страшна неяк чытаць. Мама ці бацька яшчэ ўбачаць.

Сымон. Ну і няхай убачаць. Дрэнна, што усяго палохаемся мы. Усё раўна, як мы ня людзі. Усё запытайся, ці можна яшчэ і г. д., (*устае і стукае рукой па сталу*) Не!. Сапраўды казаў інструктар, што трэба скінуць з сябе хамут бацькоў. А то ўжо нават пікнуць не даюць. Асабліва вам бабам гэта трэба. Як авечкі без пастуха так і вы нікуды (*махае рукой*). Эх, кабеты!

ЗЬЯВА III-я.

Варв. Ягор. (*за сцэнай крычыць*) — Дуня! Дуня! (*Сымон махае рукой адыходзіць да першага вакна і апіраецца на падаконьнік*) Куды гэта ты прапала? (*уваходзіць. Ей гадоў 40.*

*Варчлівая старуха. На галаве хустка*). Дуня! Ідзі зараз-жа паглядзі за каровай. Кінь гэту халеру кніжку, каб яна згарэла ужо, я жыла бяз кніжкі й цябе ніц ня возьме бяз кніжкі (*забачыушы Сымона*). А! І ты тут зьявіўся. Носіць цябе сатана, прасьці госпадзі. Заўжды ты па мітынгам ходзішь. А бацьку няхочаш дапамагчы. Ну дасьць у канцы канцоў, ён табе, што і сваіх не распазнаеш!.. (*за дзьверыма чуцен кашаль*).

## ЗЬЯВА IV-я.

(*Уваходзіць Макар, Яму гадоу 50, але выгляд мае здаровы. Адзет ен у белую вышываную рубашкv, наверсе жылет, у ботах*)

Макар. (*здымае шапку і хрысьціца*) Эх-хе-хе... Уф, горача. Трэйцяя нядзеля, ужо дожджу няма (*садзіцца*). Грэшныя мы сталі, сам бог разгневаўся на нас, і хлеба нядае. Бальшавікоў ня любіць, каб ім паздыхаць. Эх! Д'ябалы саветы нейкія нарабілі супроць нас!

Варвара Ягораўна. Што гэта ты, дарагой мой, вельмі расхадзіўся. Вось нашым нічога не патрэбна. Есьць хлеб, ці няма ім усё роўна. Вось кніжку, дык гэта ім давай без яе яны нямогуць жыць. Хочуць жыць разумней за нас. Палітыкай займаюцца, ды кніжкі усё чытаюць. Каб яны згарэлі, дзе былі гэтыя кніжкі, вон глядзі (*паказвае на кніжку. Дуня хоча іх схаваць але бацька убачыу*).

Макар. Чакай! Чакай! Давай яе сюды (*вырывае кніжку і чытае*) «Пра-гра-ма Ка-му-ні-стыч-на-га Са-юзу Мо-ладз-і...» (*працяжна*) Ага, вось што.. (*стукае па сталу*) Хто даў табе яе? (*пауза. Макар паварачваецца да Сымона, устае*) Я табе апошні раз кажу, каб гэтага ня было, а то засяку... Што гэта ты,— палітыкай займаешся? Камунію робіш? Нідазволю, засяку!

Варвара Ягораўна. Гэтак, гэтак бацька. Даўно бы ты гэта ўжо зрабіў, даў-бы добра (*паказвае на Дуню*). І гэту «паненку» ня трэба забываць (*выходзіць*).

## ЗЬЯВА V-я.

Сымон. (*не рашыцельна*) Татка... Татка.. Навошта жа крычыш? Крыкам нічога ня зробіш. Я вось хацеў...

Макар. (*перабівае*) Няма мне чаго з табою гутарыць, яйцы курыцы ня вучаць.. Я сам усё ведаю. Ня вучы ты мяне.. (*садзіцца*)

Сымон. Ня вучыць я хачу вас, а толькі хачу сказаць...

Макар. (*крычыць*) Ты, перш чым'ся гаварыць падыдзі да бацькі бліжэй (*Сымон ідзе пацiху і апушчае галаву*) Няма чаго галаву апушчаць. Пачцёньня у цябе да бацькоў няма. Палі-тык!

Сымон. Татка, дзеля чаго-ж сварыцца? Я можа у вас. апошнія дні.. дажываю...

Макар. Яшчэ што прыдумай. Здыхаць, ці што зьбіраешся, ці жывым на неба хочаш ляцець? Кажы?

Сымон. Я, татка, на вайну іду, на фронт...

Макар. (*зьдзіулена*) Як на вайну? На які фронт?.

Сымон. На польскі фронт. У Чырвоную армію!.

Макар. (*устае*) Ты што звар'яцеу, ці якое табе ліха? Ці можа быць ад гарачыні у галаве закруцілась? Ведаеш ты ці не што ты мелеш? Якая табе армія?

Сымон. Чакайце, татка! Калі вы будзеце так крычаць, то я адраву-ж пайду і.....

Макар. Як гэта пойдзеш. Ды калі ты зараз-жа у мяне з маткай ня папросіш прашчэньня, я цябе пракляну, задушу, заб'ю.

Сымон. (*рашуча*) Праклінаць і выганяць вы мяне можаце, але задушыць я сябе не дазволю. А калі мы ужо пачалі аб гэтым гаварыць то я вам скажу. Вы татка і самі ня жывеце і нам з Дуняй ня даеце жыць. Усюды свабода, прастор, воля, а толькі мы жывем у вас усероуна як у турме. Мы марнеем са сваімі сіламі а ня жывем. Толькі й чутна ад вас: пракляну, задушу, засяку, а жыцьце нам кажа. што трэба жыць, каб змагацца за лепшую будучыну...

Макар.—Сымон! Не кажы такіх слоу! Пад нагамі будзеш качацца. ні пашкадую, тады дальбох.

Сымон. Эх, жыцьце нам ня тое кажа., нято, нято татка.... Вось камуністы, якіх вы клянеце, гавіце, вучаць нас жыць для барацьбы за новае будучае, за лепшае жыцьце рабочых і сялян. самі бачыце розныя гады, як польскія паны, хочуць ізноу адняць тую волю, за якую праліта многа лепшай крыві, за якую згінула шмат нашых братоу. Няужо іх кроу і жыцьце мы прадалі ворагу. Не... Мы рашуча будзем.....

Макар. (*пагражаючы*) Хто гэта «мы»?

Сымон. Я, Міколка, Федзька, Грышка Ста....

Макар. Як? З жабракамі? З абадранцамі? Ты сын мой ці не? Апамятуйся.. Сымон, ты сын Макара.

Сымон. Я добра усё памятую. Я такі жа жабрак як і яны, я нічога свайго ня маю. Вось, лапці і тыя вашы, бо кажаце што здымеце і іх. Грошай, татка, мне не патрэбна.

Макар. Што? Я цябе, сукін сын... (*замахваецца кулаком на Сымона. Той адхіляецца і закрываецца рукой*).

Дуня. (*калі Макар замахваецца,—становіцца насярэдзіне і хватае бацьку за рукі*)—Татачка!.. татачка, пачакай!..

Макар. (*Адпіхнуушы Дуню, зьдзіулена*) А... і ты з ім разам? Што гэта бу"т... Да я вас (*хоча выцяць Дуню*)

Сымон. (*фашчча*)—Чавайце. Татка. Я пайду. Вось тады сорам будзе вам, калі даведаюцца, што сын камуніст... (*ідзе да дзьвярэй, адварачваецца*) А можа і чэсьць будзе.. (*Дуні*) Дуня, а як ты? Пойдзем разам з намі. Для цябе таксама праца будзе.. (*Дуня зьбірае хутчей свае манаткі*).

Голас за дзьвярмы: Сымон! Гатоў ужо?..

Сымон. Гатоў. Хадзем, Дуня (*ідуць да дзьвярэй. Бацьку*) Пращчай татка (*выходзяць*).

## ЗЬЯВА VI-я.

Макар. (*у час выхаду, стаічу як астаубянелы, потым кідаецца да дзьвярэй*) Сымон, куды вы?. Ці запраўды вы робіце гэта?. (*выбягае за дзьверы і там крычыць*) Сымон, пачакай, няйдзі (*ціха падыходзіць да стала і садзіцца на слон*). Эх! адзін застаўся старык, сам вінават у гэтым (*плача цяжкімі старыкоускімі сьлезамі*).

Заслона ціха апушчаецца.

**А. Палонскі.**

# Праца Камсамолу летам.

Вялікі узрост Калінінскай арганізацыі у зімовы час, значна аслабіў палітычна-выхавaучую працу усіх ячэяк.

Разам з аслабленьнем палітычна-выхаваучай працы у арганізацыі паявілісь і розныя антыкамсамольскія ухібы, як п'янкі, склокі, бойкі, няправільная антырэлігійная барацьба, камандаваньне й адміністрываньне, адсутнасьць дысцыпліны і г. д.

Да гэтага трэба дадаць яшчэ нізкі палітычны узровень актыву і яго слабасьць.

З падыходам лета такія зьявішча могуць яшчэ павялічыцца, калі кожная ячэйка, у свой час, не паставіць перад сабой пытаньня Ленінскага выхаваньня і падняцьця палітычнага узроуня ячэйковага актыву.

У летні час як можна меней «балтауні» «Ленінскае» выхаваньне, а болей практычна заняцца выпауняць задачы Ленінскага Камсамолу. Словы задавальніць, кожнага з нас, ужо нямогуць. Камсамол — практык рэаліст, а ня «балтун».

Галоуныя задачы, якія перад кожнай ячэйкай улетку ёсьць, а) правільнае разьмеркаваньне усей ячэйкавай працы паміж сябрамі ячэйкі. б) Замацаваньне усей зімовай працы, каб яна ня вылецела з галавы камсамольца, в) паглыбленьне палітычна-грамадзянской прапы, і г) вучоба у летні час актыву. На выпауненьне гэтых задач павінна быць накіравана уся увага кожнай ячэйкі.

Пры пераходзе к новым летнім формам працы, акруговы камітэт камсамолу узяу рашучую лінію на афармленьне у паглыбленьні й праверку усей зімовай працы ячэяк. З гэтай мэтай кожная ячэйка, пад асабовым наглядам сакратароу ці інструктароу райкомау Камсамолу, павінна прыступіць да упартай і паглыбленай працы у камсамольскіх гуртках, каб такім чынам была скончана да 1-га трауня уся праграма. Адначасна з вучобай вядзецца узмацненая ліквідацыя няпісьменнасьці, і канчаткова заканчваецца к пачатку палявых прац.

Пасьля такай паглыбленай працы з першага, прыблізна, трауня ячэйкі павінны склікацца на куставыя сходы, дзе і праводзіцца падлік усей зімовай працы, а разам з гэтым робяцца й вывады зімовай працы і пераход на лета.

Аднэй з форм летняй працы па паглядам Ц. К. ЛКСМБ і Акруговага Камітэту трэба лічыць:

1. Азнаямленьне прац газэты з палітстановішчам рэспублікі.

2. Узмацненьне працы сель/гаспадарчых гурткоў, перайшоушы канчаткова на практычныя заняткі.

3. Арганізацыя пры кожнай ячэйцы гурткоу фізычнай культуры.

4. Арганізацыя, усей ячэйкай, пэрыядычных экскурсі.

5. Узмацненьне вывучэньня уставу і праграмы Л.К.С.М Б.

Выходзячы з асноуных форм летніх прац ячэяк павінна быць пабудована.

## У галінэ палітасьвет.

Раз у два тыдні, усей ячэйкай, разьбіраецца устау і праграма Камсамолу, а таксама робяцца чыткі газэт, разам з гэтым даюцца індывідуальныя заданьні што чытаць і правяраюцца тыя таварышы якім раней даваліся даручэньні. На гэтых сходах неабходна рабіць маленькія палітсводкі. (Сходы пажадана правадзіць разам некалькіх ячэяк).

## Самаасьвета актыву

Актыу абавязкова, пэрыядычна зьбіраецца у групу чытаньня й вывучвае статут (устау) і праграму і гісторыю кампартыі. Для кірауніцтва у гэтай працы ячэйка абавязкова павінна мець сувязь з парт-ячэйкай ці нават райкомам Партыі.

## Сель. хоз. гурткі.

Адзін раз у тыдзень неабходна праводзіць заняткі сель. гасп. гуртка, прычым заняткі трэба праводзіць абавязкова на вольнай паветры у полі, на лузе, пры апрацоуцы камсамольскай дзесяціны і г. д.

У плян заняткау с/гасп. гурткоу неабходна уключыць цэлы шэраг экскурсій, прырода-навуковых гутарак, гурток павінен, у сваей працы прыстасоувацца (приспособлятся) да кожнай пары году.

## Спортпраца.

Па вечарох, ня меней аднага разу у тыдзень, праводзіць заняткі спортгуртка. Дзе няма добрага кірауніка гуртку — выдзяліць аднаго дапрызыуніка й праходзіць вольныя рухі (движения). І нават арганізаваны строй са сьпевамі новых беларускіх песьняу.

У заняткі спортгуртку трэба, кожнай ячэйцы, уключыць гульні у лапту з мячам, дзе можна футбол.

У час маленькага адпачынку практыкаваць дэклямацыі беларускіх вершау і розныя пераказы з літэратуры, як *«Босыя на вогнішчы»* і г. д.

## Масавая праца.

Масавая праца як ніколі павінна разгарнуцца, каб захапіць сабой усю моладзь у вольныя яе часьціны. неабходна выкарыстоуваць начлежкі, дзе расказваць розныя рэвалюцыйныя апавяданьні, дэклямацыя беларускіх вершау, рэвалюцыйныя сьпевы і г. д.

Як масавая форма працы павінна праводзіцца дні сялянскай моладзі (1 раз у месяц).

## Культ — праца.

Пры кожнай ячэйцы неабходна утварыць перадзвіжныя драмгурткі і пры пастаноуцы сьпэктаклей ставіць добрыя даклады.

## Саюзныя дні.

Саюзныя дні неабходна выкарыстоуваць з мэтай пастаноукі на іх добрых дакладау па сельск. гасп., аб палітычным становішчы, і у некаторых ячэйках пытаньні сельска — гаспадарчай хіміі.

## Беларусазнауства.

Беларускі гурток пераходзіць у краязнаучы гурток па вывучэньні жыцьця селяніна, мясцовасьці раёну (нізіны, пяскі, балоты, лясы і г. д.). Гэтая праца цесна зьвязана з с/гаспад. экскурсіямі. У сшытку усе назіраньне запісваюцца да драбніц. Сшыткі прысылаюцца у Акругови Камігэт.

## Хата-чытальня.

Хата чытальня павінна шырока разгарнуць сваю масавую працу, зьвярнуушы асабліваю увагу на чытаньне газэт, утварэньне с/г. куткоу; пры хаце чытальні неабходна утварыць гурток «Любіцялей газэт».

Усю лепшую форму працы неабходна праводзіць пад непасрэдным кірауніцтвам сакратароу райкомау ці інструктароу Камсамолу. У адносінах мястачковых ячэяк неабходна трымацца ніжэйнаступнага напрамку:

Да 5 трауня скончыць праграму як у першым, так і у другім гуртку, пасьля чаго правесьці пауторныя заняткі. На сходах арганізацыі зрабіць вывады і пераход на новыя летнія рэльсы.

Летняя праца павінна выяуляцца у галінах:

1) адпачынак і аздарауленьне усей арганізацыі
2) самаасьвета камсамольцау
3) вучоба актыву.

## Адпачынак камсамольца.

Адпачынак кожнага камсамольца павінен быць цесна зьвязан з усей працай, якая павінна быць перанесена з клюбу на двор. Адпачынак камсамольца можа выяуляцца, асабліва, у экскурсіях, па досьледам за краям. Экскурсія неабходна разьвіваць.

## Самаасьвета актыву.

У мястэчках застаюцца групы чытаньня (дзень вучобы). Групы павінны рэгулярна весьці свае заняткі (адзін раз у тыдзень). У групах чытаньня больш усяго разьбіраецца матэр'ял газэт.

## Саюзныя дні.

На лета асаблівае значэньне павінны мець саюзныя дні. Парадак дню падбіраецца абавязкова з дакладам на палітычную, ці другія тэмы, як камсамольскія.

## Шэфская праца.

Улета узмацняецца праца па шэфству. Кожная мястачковая ячэйка, разам з другімі ячэйкамі робіць рэгулярныя выхады у вёску.

## Фізвыхаваньне.

На лета узмацняецца па кожнаму раёну фізвыхаваньне, у гурткі якіх уцягнуць усю лепшую беспартыйную моладзь.

Спорт неабходна скарыстоуваць дзеля масавай працы, як чытка газэт, дэклямацыя і г. д.

## Беларусазнауства.

Там, дзе магчыма, заставіць існаваньне беларускіх гурткоу, скараціушы лік заняткау у тыдзень.

Тыя ячэйкі, якія больш падыходзяць да вясковай, павінны карыстацца паказаньнямі, якія дадзены вясковым ячэйкам.

*А. Палонскі.*

# Краязнаучая праца і удзел у ей ЛКСМБ.

Краязнаустваа, як кажа само слова есьць вывучэньне Краю. За апошнія гады пытаньні краязнауства пачынаюць зварочваць на сябе асаблівую увагу. У чым-жа тут справа? Чамуж гэта зацікавіліся цяпер, а мала зьвярталі увагі раней? Гэта вельмі зразумела. Уклад жыцьця цяперашні зусім інакшы, чым быу 8 гадоу таму назад, а дзеля гэтага новыя формы жыцьця вымагаюць новых запатрабаваньняу, адным з якіх і есьць краязнауства.

Пад краязнауствам мысьліцца больш сьвядомае сыстэматычнае вывучэньне агульнаграмадзянскага гаспадарчага жыцьця краю.

Абшары вялікага Савецкага Саюзу зруйнаваны імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайной, але на гэтых жа абшарах адраджаюцца народы, розных нацыянальнасьцей, якія да Кастрычнікавай рэвалюцыі прыгняталіся царскай Уладай. Прыродныя Багацьці нашага Саюзу спрыяюць эканамічнаму узросту Савецкай дзяржавы, толькі іх трэба вывучыць і правільна выкарыстаць. Дзеля хуткасьці справы трэба агульнымі сіламі брацца вывучаць і будаваць эканамічную і культурную падставу для узмацненьня дзяржавы. Камсамол, які зьяуляецца першай зьменай, заусёды і цяпер павінен выявіць свой твар, узяушыся практычна ажыцяуляць чарговыя заданьні па працы вывучэньню Краю.

Акрамя агульнай саюзнай вартасьці—эканамічнага узросту краязнауства на Беларусі мае сваю асабістую мэру. Беларусь, адна з старонак, быушай у прыгнечаньні „Веліка-дзяржаунай Расеі“, якая амаль што страціла свае значэньне, як дзяржавы. а дзеля гэтага, акрамя адраджаньня свае гаспадаркі, нам трэба зьвярнуць увагу на вывучэньне беларускае культуры. Узяушыся адраджаць народную беларускую культуру, мы павінны добра вывучыць тое, што было створана гэтым-жа народам шмат гадоу таму назад.

Ці ведаем мы усе мінулае свайго народу? Напэуна можна адказаць, што не, а калі і ведаюць некаторыя, то іх можна пералічыць на пальцах. Калі здараецца весьці працу, што і сярод

Камсамольцау сустрэнуцца такія, каторыя разводзяць рукамі і кажуць: „ну і нашто гэта беларуская культура, нашто варочаць старыну, нашто закручваць мазгі? і г. д.

Гэта кажа усякі несьвядомы, „казенны“ чалавек паміж калі яна есьць, то часова, але Камсамольцау іх ня будзе. Ад гэтуль вывад, што на абшарах Беларусі трэба палажыць больш сіл, больш энэргіі і больш увагі аддаць працы па краязнаустьу, бо калі усебакова мінулась жыцьця сучаснае становішча беларуса будзе высьветляна, то і пагляды пачнуць меняцца і стануць такімі, як яно есьць на самой справе.

У зьвязку з усім вышэй сказаным усплывае пытаньне, якое месца у гэтай справе павінен заняць Камсамол. Камсамол на весцы разам з настаунiцтвам зьяуляецца той сілай, якая павінна адыграць вялікую ролю у гэтай працы. Камсамол, які раскіданы па усіх кутках Беларусі даць магчымасьць краязнаучым організацыям абхапіць сваей працай усе адлеглыя куткі нашае краіны.

—Краязнаучыя організацыі не утвараюцца асобна пры Камсамольскіх аб'еднаньнях, для камсамольцау, а увайходзяць на агульным палажэньні па статуту у шырока грамадзянскі склад культурных працоунікоу, аб'еднаных на Калініншчыне у Калінскае Акруговае Краязнаучае таварыства, апошняе засноувае свае аддзяленьні пры кожным раене, на чале з сваім упаунаважным, а так сама ад раеннага аддзяленьне засноуваецца пры райсельсаветах, а усе разам уходзяць у склад супрацаунікоу па краязнаустьу і кіруюцца Інстытутам Беларускае Культуры. Калініншчына яшчэ ня уся абхоплена нізавымі ячэйкамі, краязнауства тут трэба Камсамолу дапамагчы арганізаваць, уцягнуць у гэту працу лепшае сялянства і самім быць прыкладам для другіх па выпауненьню ускладаемых організацыяй абавязкау.

Будзем спадзявацца, што Камсамольская армія Калініншчыны прыдзе нам на дапамогу у Краязнаучай працы, чым дапаможа скарэйшаму высьвятленьню мінуушчыны і пабудаваньне эканамічна-культурнага жыцьця для Беларусі, а праз яе і усяго СССР.

*Старшыня Калінінскага Акруговага Кр—чага*
*Таварыства* АНІХОУСКІ.

Анісау.

## Расьцем і мацнеем.

*(Клясінская яч. ЛКСМБ Краснапольск. район.)*

Маладая, вясковая, Клясінская яч. ЛКСМБ з кожным днем расьце і мацнее.

Гэта тулмачыцца правідловым пачаткам працы.

Працай ячэйкі зацікаулена не толькі моладзь, нават і старыя сяляне, якія ходзяць на сходы ячэйкі.

Камсамольцы праводзяць з імі бяседы, у свабодныя хвіліны у клюбе ідуць гарачыя размовы сярод камсамольцау з сялянамі, пасьля якіх з здавальненымі тварамі апошнія зьвяртаюцца дамоу. Адзін недахоп, што дзяучаты яшчэ мала імкнуцца да камсамолу, гэта тулмачыцца тым што слаба праводзілася праца сярод жанчын.

Заданьне па уцягненьню у КСМ дзяучат стала першым перад нашай ячэйкай. Дасягненьні есьць.

У апошні час у ячэйцы лічыцца 13 камсамолак дзяучат, якія прыкладна працуюць. Працы ячэйкі памагаюць настаунікі. Наогул мы расьцем, мы крэпнем!..

---

Зотау Федот.

## Прэч няпісьменнасьць.

*(в. Палуж Краснапольскага р.)*

У в. Палужы ёсьць шмат няпісьменных дзяўчат, вядома чаму, бо ніхто не зварачае ўвагі. Але ў прайшоўшую восень, к нам прыехала настаўніца т. Зайцэва.

Зайцэва, пачала весьці працу сярод дзяўчат і вынікі працы відаць, цяпер 22 дзяўчыны вучацца на лікпункце. Яны раней ня ўмелі ні пісаць, ні чытаць; цяпер добра пішуць і чытаюць. Хоць патроху, але зьнішчаем няпісьменнасьць сярод дзяўчат.

---

Краучэнка П.

## У дзень Лесу

*(Бухарына-Пралетарская яч. ЛКСМБ).*

У дзень лесу усе Камсамольцы накіраваліся у бліжэйшую веску дзеля правядзеньня кампаніі. У сьвязку з далячынею лесу ні магчыма было нанасіць дрэўцау. На прозьбу сэкрэтара яч. каб старшыня камуны дау каня. Апошні ні дау.

Затое сельсавет пашоу на дапамогу і дау.

Закіпела праца. Адна чарада паехала за дрэупамі, а другая з сталося капаць ямкі. Як прывезьлі дрэу на дапамогу прышлі піонары

Пачуушы піонэрскую песьню сяляне кінулі спрауляць вялікдзень, ды прыйшлі садзіць дрэуцы.

Гэта быу толькі прыклад бо пасадзілі толькі 50 дрэуцау.

---

Паборцау

## Абудзіліся ад цемры.

*(Васілеускі сс. Хоцімскі р.)*

У Хоцімскім раёне маецца Васілеускі Райсельсавет, які пры раёнаваньні адышоу Смаленскай губ

Трэба зазначыць, што гэта адзін з куткоў, дзе моладзь ня мела ўяуленьня ні а камсамоле, ні а культасьветнай працы. Яна ведала адно, наладжаньне п'яных вечарынак і больш нічога.

Райкамол зьвярнуў ўвагу на наш куток і пасьля доўгай падрыхтоўчай працы, выездаў і правядзеньня сходаў з моладзьдю, апошняя была згуртована і ужо ў сакавіку месяцы, у нас зацьверджаецца ячэйкай ЛКСМБ.

Цяпер ячэйка пачынае расьці, моладзь бярэцца за працу і пачынае будзіць іншую моладзь, якая яшчэ сьпіць. Пры ячэйцы, наладжана добра праца с/г. гуртку, на занятках якога, прысутнічае і сялянства.

Моладзь бярэцца за працу. Яна пачынае наверстваць прайшоўшы марны час, да арганізацыі ячэйкі Л. К. С. М. Б.

# Курсы актыву.

*(Мсьціслау)*

З 31 сакавіка па 4 красавіка у Мсьціслаўле адбыліся курсы раённага Камсамольскага актыву. Шмат добрага атрымалі актывісты ад курсаў. Былі апрацаваны такія пытаньні, як сусьветнае становішча, чарговыя заданьні К. П. Б. Становішча і практычныя задачы партыі ў раёне, пастановы нарады П. В. К. С. С. С. Р. па савецкаму будаўніцтву коопэрацыі і цэлы шэраг другіх надта цікавых пытаньняў.

Усяго прысутнічала 43 актывіста 10 ячэяк у гэтым ліку 6 дзяўчат. Актывісты цікавіліся курсамі і адносіны да заняткаў былі добрыя.

Трэба сказаць, што ня ўсе ячэйкі паслалі тых актывістаў якіх трэ'было паслаць. Былі выпадкі калі прысылалі таварышоў ні зацьверджаных Акружкамолам.

Ці зусім не актывісты. Матар'яльна курсы былі дрэнна абстаўлены, бо ня было сродкаў.

Але ўсёж курсы далі многа нашаму актыву, як у адносінах ведау, так і ў сэнсе азнаямленьня з калектыўным жыцьцем.

Курсант *Хаган.*

# КНІГАПІС.

**М. ЧАРОТ. Босыя на вогнішчы-поэма.** Выд. Калінінскага акрпалітасьветы 1925 г. 31 стар.

Поэма «Босыя на вогнішчы» гэта вядомы мастацкі твор паэта-маладнякоуца М. ЧАРОТА. Поэма у свой час шмат нарабіла шуму сярод беларускіх чытачоу. Шмат вялося спрэчак аб тым, як лічыць гэту поэму: пралетарскім творам ці не. Думкі наконт гэта разходзіліся адны лічылі пралетарскай, другія беднацка-сялянскай, трэйція рэвалюцыйнай і г. д. але самы той факт што поэма закранула сэрцы чытачоу, кажа ужо пра яе высокаю мастацкую вартасьць. Гэта першы камен паложаны М. Чаротам у васнову новай беларускай пралетарска-сялянскай літэратуры, над стварэньнем якой працуе разам з Чаротам «Маладняк».

«Босыя на вогнішчы»—гэта мастацкі вобраз Кастрычнікавай рэвалюцыяй на Беларусі з яе шмат фарбнымі пералівамі. Для рабочых і сялян Калінішчыны асабліва для моладзі -гэта вельмі каштоуная кніга, якая дасьць магчымасьць цераз мастацкі вобраз глыбока усьвядоміцца у значэньні Кастрычніка для Беларусі. дапаможа пазнаць сваю ролю у ей і яркі савет пральле на разуменьне сучаснасьці.

Бо мы ня толькі забітыя, як пяялі некатарыя пісьменнікі.

„Мы-дзеці краіны  
Две бура бушуе...  
Мы на прадвечных руінах  
Працы палац пабудуем...

Вось як кажа Чарот пра Беларускіх рабочых і сялян. У тым, што поэма адчыняючы на вялікую сілу, якая крыецца у рабочых і сяляна-усе яе вялікае значэньне і вартасаць.

Апроч таго для маладых паэтау-самародкау-яна можа паслужыць за навуку, якімі спосабамі і сродкамі можна выказваць свае думкі, настроі і пачуцьці так, каб „моцна ударыць у сэрцы" другіх.

Кніжка выдадзена у Калінінскіх умовах прыгожа. Апрача таго каштуе ня дорага і доступна масаваму чытачу.

*Ак.*

**М. Горкі. Песьня аб сокале. Песьня аб буравесьніку.** Пераклад Ю. Б. Выданьне Калінінскага Акр. палітасьветы 1925 г. 15 стар.

Гэта невялічкая кніжачка гэта крок для азнаямленьня беларускіх мас з літаратуру братніх нам народау на сваей роднай беларускай мове. Прауда, есьць у перакладзе і не дакладнасьці, але усе гэта адыходзіць на задні плян перад тым значэньнем, якое набывае кніжка у справе мастацкага выхаваньня працоуных мас.

Песьні чытаюцца легка і для чытача зьявіцца «буравесьнікам», які падасьць сілы і энэргіі у жыцьцевай буры.

---

**В. Кнорын.** Камуністычная партыя на Беларусі. Выд. Калінінскага Акр. Камітэту КП(б)Б. 1925 г. 30 стар.

Каштоуная кніжачка, якая дае досыць шмат матар'ялу для вывучэньня гісторыі кампартыі, Беларусі этапау яе разьвіцьця, яе рэвалюцыйнай дзейнасьці і інш. Кніжачка Кнорын, аднаго з старэйшых кіраунікау КП(б)Б. ахапляе сабою гісторыю партыі ад моманту яе арганізацыі аж да 1921 году уключна.

---

**Артур Арну.**—Нябошчыкі Камуны.-Пераклад С. Музыкі. Выд. Калінінскага акрпалітасьветы г. Клімавічы 1925 г. стар. 20.

Жывою мовай кніжачка расказвае пра дзеячоу Парыскай Камуны. Дэлеклюз, Варлен,-сын народу і дзіця уласных думак,- Дзюваля і Флуранса, Вэрморэль і Фэррэ—вось дзеячы пра якіх апавядае кніжачка. Для выхаваньня і загартаваньня волі маладых працаунікоу яна дае шмат матар'ялу. Прауда, трэба прызнацца, што пераклад рабіуся, як відаць пастрочна, літаральна. Ад гэтага крыху пацярпела беларуская мова. Ужыты часом такія звароты, якія не адпавядаюць духу беларускай мовы. Вось хоць-бы такі: „альбо-жа адчынялі яму новыя бакі пытаньня".

Але наогул кніжачка вельмі карысная.

# ЦІ ТЫ ПАДПІСАУСЯ?

а) „Чырвоная Зьмена" — выходзіць 8 раз у м-ц, падпісная плата 22 к. у м-ц, орган ЦК ЛКСМБ.

б) „Малады Араты" — папулярны журнал сялянскай моладзі, выходзіць 2 разы у м-ц, падпісн. плата — 15 к. у м-ц.

в) „Юнгер Арбэтэр" —штотыднёвая газэта жыдоўскай працоунай моладзі, высьвятляе іх жыцьце мястэчковых ячэяк, плата 15 к. у м-ц.

г) „Піонэр — Вэкэр" штотыднёвая піонэрская газэта, плата 10 к. у м-ц.

д) «Звязда Млодзежы» — 2-х тыднёвая газэта на польской мове, плата 10 к. у м-ц.

е) «Беларускі піонэр» — штомесячны журнал піонэратрадау, плата 30 к. у м-ц.

ж) „Наш Працаунік" — выходзіць 2 разы у тыдзень, плата—30 к. у месяц.

**Кожны камсамолец, вярбуй дапісчыкау!**

## ЗАУВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ.

| Старонка | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
| --- | --- | --- | --- |
| 35 | Апошні радок. | Г а л о у | Г а т о у |
| 40 | 7 зьверху | Прац газэты | Праз газэты |
| 41 | 7 зьнізу | Усю лепшую | Усю летнюю |
| 43 | 10 зьверху | М э р у | М э т у |
| 44 | 4 зьверху | Гэта кажа усямі несьвядомы «казены» чалавек, паміж калі есьць, то часова, але камсамольцау іх нябудзе. | Гэта кажа усякі несьвядомы „казечны" чалавек, калі яны есьць то часова, але паміж камсамольцау іх нябудзе. |
| 45 | 4 зьверху | Толькі моладзь | Ня толькі моладзь |
| 49 | 16 радок | Кніжачка Кнорын | Кніжачка Кнорына |

